цэн пры Савеце Міністраў БССР ужо сварыліся з намі з-за крухмалу. Выканаць іх патрабаванні—значыць падарваць эканоміку гаспадарак. Бо, папершае, сабекошт бульбы ў калгасах — 4 рублі 84 капейкі, а ў саўгасах — 5 рублёў 89 капеек за цэнтнер. Па-другое, галоўную «бульбяную плошчу» ў рэспубліцы займаюць малакрухмалістыя гатункі: «зазерскі», «фаран», «ротботэ», «берліхінген». Гады праз 3—4 мы іх заменім на крухмалістыя: «беларускі ранні», «агеньчык», «тэмп», «кандыдат», «разварысты», «лошыцкі».

У заключэнне выказваецца Іван Пятровіч Альсмік:

— Цана на ўсю сталовую бульбу таксама не павінна быць пастаянная. Гараджанін плаціць цяпер па 8 капеек за кілаграм бульбы любога гатунку. А няхай бы плаціў дзешавей за «фаран» і даражэй за «тэмп» ці за «лошыцкі».

Гатунак «тэмп» выведзены Іванам Пятровічам. Цудоўная гэта бульба! Круглая, крыху пляскатая, белая, важкая, да жніўня наступнага года захоўвае свой смак і пах, разварваецца, калі не дагледзіш, у кашу, бо мае крухмалу 22 працэнты. І не баіцца хвароб.

Самыя страшныя бульбяныя хваробы — рак і фітафтора, з-за якой сёлета страчана столькі бульбы, што ў параўнанні з мінулым годам у нас не адбылося ніякага росту ўраджайнасці. Між тым пасяўныя плошчы пад бульбу вырашана надалей не пашыраць, а павялічваць збор яе толькі за кошт ураджайнасці. У 1970 годзе яна склала 120 цэнтнераў з гектара.

А як можа ўрадзіць «тэмп»? На добра ўгноенай глебе — 400 цэнтнераў з гектара.

Ураджайныя і высокакрухмалістыя іншыя гатункі Пятра Іванавіча: «разварысты», «кандыдат» і больш даўні — «лошыцкі». «Лошыцкага» на Беларусі развялося многа — ім было занята сёлета 44,6 тысячы гектараў. Дзве вялікія перавагі над іншымі гатункамі вывелі яго на шырокае поле. Па словах Пятра Іванавіча, гэтая белая, буйная, з моцнай скурай бульба «лёгка пераносіць усялякія бесталковыя механізмы».

Намаганнямі Навукова-даследчага інстытута электрыфікацыі і механізацыі сельскай гаспадаркі нечарназёмнай зоны СССР у доследных гаспадарках механізавана дзевяноста працэнтаў уборкі бульбы. Так выглядае справа ў калгасе «Бальшавік» Лагойскага раёна, дзе інстытуцкія вучоныя ўкаранілі паточны метад. Ён даволі рацыянальны: камбайн «Дружба», які абслугоўваюць шэсць чалавек, самазвал (яшчэ адзін чалавек) і сартыроўка (таксама адзін чалавек, які ў дадатак абслугоўвае трактар з прычэпам) убіраюць і сартыруюць за дзень 1,5 гектара бульбы. На адным полі ўбіралі бульбу камбайнам і бульбакапалкай. Камбайн узяў 190 цэнтнераў з гектара, а людзі, што збіралі яе за капалкай — толькі 120 цэнтнераў. Больш як трэцюю частку ўраджаю закідала зямлёй машына.

Але і камбайны, і капалкі маюць адну вельмі значную загану: псуюць многа бульбы.

Інжынеры многіх краін свету ўжо даўно ўдасканальваюць бульбаўборачныя машыны, бо ўборка — самы працаёмкі працэс. Каб не псаваць бульбу, транспарцёры, ролікі, валікі, барабаны абліцоўваюць гумай. Каб скараціць колькасць рабочых, спрабуюць ставіць на камбайны сартыровачныя прыстасаванні з электронным начыннем або з рэнтгенаўскай трубкай. Ускладняецца канструкцыя, расце кошт машын, большая кваліфікацыя патрабуецца ад механізатара.

Якой жа тады павінна быць бульба? Мацнейшай за гуму і сталь? Ва ўсякім разе — мець пэўную форму і моцную скурку.

А селекцыянера цікавіць і яшчэ адно пытанне, надзвычай важнае ва ўмовах сённяшняга існавання чалавецтва, калі кожны трэці жыхар планеты галадае.



§ 2

## ЗАЧАРАВАНЫ ПРАТЭІН

З кілаграма «лошыцкай» можна атрымаць 23—27 грамаў пратэіну. Вучоныя-бульбаводы ГДР аптымістычна сцвярджаюць, што каб удалося атрымаць 30 грамаў бялку з кілаграма бульбы, то ў жывёлагадоўлі адмовіліся б ад канцэнтраваных кармоў. А самыя вялікія аўтарытэты сельскай гаспадаркі сцвярджаюць: больш бялку — меншы ўраджай. Зачараванае кола!..

Каб весці наступленне ў напрамку «ВЫСОКІ ЎРАДЖАЙ+3% ПРАТЭІНУ», акадэміку Альсміку патрэбна не 152 тысячы сеянцаў бульбы, з якімі ён працаваў сёлета, а ўдвая больш.

Не ўсім вядома, якая карпатлівая праца селекцыянера. Гатункі, звезеныя з усяго свету, і ўласныя гібрыды высяваюцца кожны ў свой грашчочак. Высяваюцца, бо бяруцца не клубні, а тыя зярняткі, што спеюць у зялёных «яблычках», пра якія вядома, што імі — па цемнаце сваёй — ласаваўся іспанскі каралеўскі двор, калі ўпершыню прывезлі бульбу ў Еўропу. Пятро Іванавіч сеяў раней у керамічных гаршчочках — яны вельмі прыдатныя для такой мэты. Ды іх не набярэшся, і прыйшлося тэрмінова прасіць дапамогі ў хіміі — у Наваполацку заказалі поліэтыленавыя. Увосень з кожнага гаршчочка бяруць па адным клубні, і кожны клубень змяшчаецца ў асобны пакет. Пранумараваць 150 тысяч пакетаў — таксама работка.

А тут яшчэ неадступная, і зноў жа першай важнасці

## ПРАБЛЕМА ЎРАДЖАЙНАСЦІ, АБО...

§ 3

Галоўны аграном па бульбе Яўген Аляксеевіч Стальмашок:

— За пяцігодку намячаецца павялічыць ураджайнасць бульбы ўдвая. Тры фактары выступаюць супраць нас у гэтай праблеме.

УГНАЕННІ. Іх пакуль яшчэ малавата: і мінеральных, і, асабліва неабходных бульбе, арганічных. Бульба гной любіць...

НОВЫЯ, ураджайныя і крухмалістыя, гатункі размнажаюцца па законе адзін да двух (напрыклад, летась гатунак займаў 10 га, а сёлета — 20 га). Выключэнне—«тэмп». Ягоныя тэмпы 1:3. Праўда, Беларусь на першым месцы па насенняводстве бульбы. Будзем мець вялікую карысць і ад тарфянікаў. Гатунковая бульба, вырашчаная на іх, значна аздараўляецца і дае ўраджай на бяднейшых землях.

І, УРЭШЦЕ, практыка сяміпольнага севазвароту падказвае, што пакуль культура не пройдзе поўны круг, вялікіх змен ва ўраджаі не чакай.

240 цэнтнераў з гектара — многа ці мала?

Калі параўнаць з 1913 годам — многа: тады ў Беларусі сярэдні ўраджай быў 69 цэнтнераў з гектара.

Між тым у 1967 годзе Галандыя, ФРГ, Швейцарыя бралі па 300—350 цэнтнераў на круг.

У нашай рэспубліцы па 370 цэнтнераў бульбы з гектара стабільна атрымлівае на тарфяніках саўгас «Любанскі», а сёлета 12 звенняў у розных гаспадарках рэспублікі змагаліся за права называцца пяцісотнікамі. 500 цэнтнераў з гектара — лічба рэальная.

На радзіме бульбы, у ЗША,— па рацэ Каломба, дзе самыя спрыяльныя ўмовы,— зафіксаваны рэкорд: 1.200 цэнтнераў з гектара.

— Рэкорды рэкордамі, а пераліваць вадзіцу не будзем,— рэзюміруе доктар Альсмік.—Бульба павінна быць паўнацэнная: з крухмалам і бялком.

§ 4 **(Ад аўтара)**

З чым яе есці?

Ды з чым хочаш, з тым і еш. З салам, яечняй, цыбуляй, з кіслым або салодкім малаком, з агурком і рэдзькай, з квашанай капустай, з саладухай, з мочанымі брусніцамі, грыбамі, маслам або смятанай, з селядцом, з аўсяным кісялём, з алеем, з мачаннем... Абы смачна было.

Іншая справа — дзе можна з'есці смачна прыгатаваную бульбу?

Дзевяць гадоў назад быў пакладзены добры пачатак: у Мінску адкрылася спецыялізаванае кафэ «Бульбяная». Праз два гады, упэўніўшыся ў поспеху новага кафэ, гарадскі трэст сталовых і рэстаранаў адчыніў яшчэ адну «Бульбяную» — на праспекце Партызанскім.

Смажаная бульба з мясам у гаршчочках, аладкі, фаршыраваныя мясам, бульбяныя пончыкі, дранікі — гэтыя стравы з аднолькавай ахвотай ядуць рабочыя і студэнты.

Але на гэтым добрая справа скончылася. У дзвюх «бульбяных» заўсёды цесна ад шматлікіх наведвальнікаў, а новых «бульбяных» не адкрываюць. Мала таго, усе беларускія рэстараны і сталовыя не любяць займацца прыгатаваннем беларускіх нацыянальных страў з бульбы. Сапраўдная «каралева» нашых палёў падаецца там у дзвюх «мадыфікацыях»: пюрэ-гарнір, і... азу па-татарску. Нават славуты сталічны рэстаран «Журавінка» можа пахваліцца толькі адной-дзвюма беларускімі стравамі. І яго фірменнае адрозненне ад віцебскай «Дзвіны», гродзенскага «Нёмана», гомельскай «Беларусі» выклікае сумную ўсмешку: у гарнір абавязкова пакладуць некалькі журавін — беларускі стол, маўляў.

Можна класці ў крывавы біфштэкс жменьку кіслых ягад і дзеля гэтага мець спецыяльны рэстаран. Але не грэх было б адкрыць у вялікім горадзе хоць некалькі палатак, дзе прадавалі б, скажам, гарачую бульбу з кіслым малаком, дранікі, бабку. Хто б не зайшоў на знаёмы, апетытны пах бульбы?!

Мы добра ведаем, што Беларусь дае 15 працэнтаў усесаюзнага збору бульбы, што дзякуючы бульбе маем моцную жывёлагадоўлю, што без спірту, зробленага з беларускай «картоплі», немагчыма існаванне электроннага і звышдакладнага прыборабудавання.

А бульбу, відаць, гатаваць развучыліся.

Ці на вінаград перайсці збіраемся?

**Валянцін ЖДАНОВІЧ.**
**Фота аўтара.**



# ПОШУК ВЯДУЦЬ МАЛАДЫЯ

Гэты звычайны будынак па вуліцы Друкарскай з поўнай падставай можа быць названы Домам Цудаў. Тут рэальнасць мяжуе з фантастыкай. Адчыніўшы дзверы аднаго з пакояў, вы раптам адчуваеце, што стаіце на парозе XXI стагоддзя, а вакол — героі Аляксандра Казанцава і Станіслава Лема...



Камсамольскі важак Інстытута фізікі Валеры Снапко.

## ТУТ НАРАДЖАЕЦЦА СОНЦА

Паэт калісьці, вядома, жартаваў, запрашаючы на шклянку чаю нябеснае свяціла. Лірыку, які адпачывае на дачы, няцяжка ўявіць, быццам сонца прыйшло да яго ў госці. А калі б на самой справе?

— Гэтага не можа быць! — катэгарычна запярэчыў сур'ёзны чалавек, знаёмы з элементарнай фізікай. — Па-першае, закон сусветнага прыцягнення. Па-другое, звышвысокая тэмпература...

Я таксама быў такім скептыкам, пакуль не наведаў Інстытут фізікі Акадэміі навук БССР, дзе ўбачыў сонца ў гасцях у маладога вучонага, сакратара інстытуцкага камсамольскага бюро Валерыя Снапко. Яно з'явілася на нейкую долю секунды з такім аглушальным трэскам, што ў мяне пасля цэлы дзень звінела ў вушах. Магутны імпульсны разрад прабіў паветра, і шар, які ўспыхнуў на імгненне, напоўніў лабараторыю азонам, нібыта сюды раптам уварваўся подых навальніцы. Гэта была плазма — кіпучы газ, матэрыя, з якой складаецца сонца...

Праўда, «штучнае сонца», з якім эксперыментуе Валеры Снапко, не такое гарачае, як сапраўднае. Гэта плазма называецца нізкатэмпературнай. Але таму, хто ўздумае «пагрэцца» каля яе, бадай, не пазайздросціш: нізкатэмпературная плазма мае ... сто тысяч градусаў.

Для чаго ствараецца гэтая пякельная гарачыня? Ні ў якім стане рэчыва не тоіць у сабе гэтулькі загадак, колькі іх у плазме. Раскрыць яе сакрэты, прымусіць «сонечную матэрыю» працаваць на чалавека — такая задача вучоных.

Перспектывы прыручэння плазмы вельмі спакуслівыя. Вучоныя падлічылі, што каменнавугольны шар такой жа вагі, як сонца, цалкам згарэў бы праз шэсць тысяч гадоў. Сонца гарыць ужо больш двух мільярдаў гадоў і ў наступныя два мільярды, напэўна, будзе гарэць па-ранейшаму. Калі запаліць такі ж агонь на зямлі і выкарыстаць яго для патрэб чалавека, знікне неабходнасць у зямным па-

ліве, запасы якога ні ў якім разе не бязмежныя. Першая кропля штучнай сонечнай масы, якая пачне гарэць у кантралюемым катле зямной электрастанцыі, адразу ж вырашыць усе энергетычныя праблемы свету. «Сонечная матэрыя» здольна зарадзіць рухавікі касмічных караблёў такой энергіяй, якой падуладны любыя адлегласці. Згодна тэарэтычных разлікаў, плазменны рухавік можа развіць хуткасць, блізкую да хуткасці святла. Кіруемая тэрмаядзерная рэакцыя таксама праходзіць праз «сэрца» плазмы...

Але перш чым ушчыльную падысці да рашэння гэтых няпростых задач, трэба вывучыць усе ўласцівасці «сонечнай матэрыі». Адна з лабараторый Беларускага інстытута фізікі займаецца спектральнай дыягностыкай плазмы. У гэтым напрамку працуе і кандыдат фізіка-матэматычных навук Валеры Снапко. Маладому вучонаму ўдалося сфармуляваць заканамернасць, прынцыпова важную для дыягностыкі плазмы: адпаведныя лініі яе спектра вельмі чуллівыя да змен электроннай канцэнтрацыі. Гэтае заключэнне, у сваю чаргу, лягло ў аснову новага метаду даследавання плазмы — аднаго з многіх спосабаў пранікнуць у таямніцы чацвёртага стану рэчыва.

Пакуль што «штучнае сонца» ўдаецца ўтрымаць на электродах усяго адно імгненне. Прадоўжыць яго жыццё хаця б на сотую долю секунды не так проста. Яшчэ адна праблема — атрыманне так званай чыстай плазмы пры тэмпературы звыш дзесяці тысяч градусаў па шкале Кельвіна. Для таго каб рашыць гэтую задачу, беларускім вучоным давялося стварыць спецыяльную ўстаноўку, на якой можна атрымаць азотную плазму з дапамогай электрычнага разраду вялікай магутнасці. Гэтай работай кіраваў настаўнік Валерыя Снапко — доктар фізіка-матэматычных навук Л. І. Кісялеўскі. У выніку беларускім фізікам удалося вызначыць выпускальную здольнасць чыстай плазмы пры высокіх тэмпературах. Зроблены яшчэ адзін крок у вывучэнні загадкавай матэрыі. Яшчэ адзін крок насустрач сонцу...



Малады вучоны Міхаіл Лойка.

## ЭЛЕКТРОННАЕ «ВОКА»

Якасць адлюстравання... З гэтай праблемай большасць з нас сутыкаецца амаль штодзённа: не зразумееш, бывае, што раптам робіцца на экране тэлевізара! І далёка не заўсёды прычынай гэтаму бываюць атмасферныя перашкоды або тэхнічныя дэфекты на лініі сувязі. Часцей за ўсё «сакрэт» заключаецца ў матэрыяле, з якога зроблены кінескоп вашага тэлевізара.

Адзін з вельмі істотных яго кампанентаў — экран — не такі просты, як гэта здаецца. Унутраная паверхня электронна-прамянёвай трубкі пакрыта люмінафорам — спецыяльным саставам з мікраскапічных часцінак, якія свецяцца. Таўшчыня гэтага пакрыцця — тысячныя долі міліметра. Можна сабе ўявіць, якой павінна быць тэхніка нанясення пакрыцця, каб люмінафор пакрываў паверхню кінескопа строга раўнамерным слоем.

Дарэчы, усё адносна, у тым ліку і паняцце раўнамернасці. Нават тое, што заводскі АТК прапускае першым гатункам, вельмі далёка ад ідэалу. Пакупнік тэлевізара пра гэта, магчыма, і не ведае, затое спецыялісту-оптыку вядома ўсё. Але што зробіш, калі тэхніка тут яшчэ не падышла да грані фантастыкі! Ёсць, урэшце, праблемы больш важныя, чым якасць адлюстравання на экране тэлевізара...



Канстанцін Прадко за апрацоўкай эксперыментальных даных.

Ёсць, вядома. Аднак аспірант Інстытута фізікі АН БССР Канстанцін Прадко вырашыў заняцца менавіта гэтай, «не першай важнасці» праблемай. Дарэчы, што датычыць ступені важнасці, то гэта пытанне спрэчнае: нічога яшчэ, калі «блізарукасцю» пакутуе ваш тэлевізар; надзвычай горш, калі гэта здарыцца з прыборам начнога бачання, які ўстаноўлены, напрыклад, на касмічным караблі. У гэтым выпадку гаворка ідзе пра электронна-аптычныя пераўтваральнікі, «зоркасць» якіх у многім залежыць ад якасці люмінафорнага пакрыцця экрана. Сюды ж можна далучыць і многія аптычныя прыборы, фатаграфічныя эмульсіі, рэнтгенаграфічныя ўстаноўкі... Адным словам, звычайнай гэтая праблема можа здацца толькі недасведчанаму. А для Канстанціна Прадко яна стала галоўнай справай некалькіх гадоў жыцця.

Выпускнік фізічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна, ён прыйшоў у навукова-даследчую лабараторыю з ясным разуменнем таго, што ў навуцы няма і не можа быць дробязяў, што нават маленькае адкрыццё ў сто разоў апраўдвае затрачаныя намаганні. А галоўнае — на адну «белую пляму» менш! У гэтым мэта і прызванне чалавека, які паступіў на службу да навукі, — затушоўваць «белыя плямы», замяняць пытальнікі клічнікамі, шукаць і знаходзіць, знаходзіць і зноў імкнуцца да пошукаў...

Вывучаючы прычыны «блізарукасці» розных аптычных прыстасаванняў, малады даследчык прыйшоў да вываду, што часцей за ўсё яна залежыць ад неаднолькавай шчыльнасці люмінафорнага пакрыцця экрана. Адразу ўзнікла пытанне: як зацыраваць «дзіркі»? Аспірант пачаў распрацоўваць розныя спосабы паляпшэння якасці люмінафору. Адзін са шматлікіх эксперыментаў пасведчыў, што калі ўвесці ў люмінафорны састаў невялікую колькасць паглынаючага рэчыва — скажам, звычайнага чорнага фарбавальніка, — то частотна-кантрасная характарыстыка экрана значна паляпшаецца. А для таго каб зменшыць зярністасць пакрыцця, трэба асаджаць часцінкі, наколькі гэта магчыма, аднолькавыя па памеры. Шэраг тэхналагічных параметраў змяняецца ў залежнасці ад таго, больш або менш звязваючага рэчыва ўводзіцца ў люмінафор...

Так, раскладаючы праблему на састаўныя часткі, Канстанцін Прадко змог не толькі дыягнаставаць розныя «хваробы» аптычных прыстасаванняў, але і распрацаваць шэраг рэкамендацый па паляпшэнні якасці люмінафорнага пакрыцця. Ужо зроблены першыя крокі па ўкараненні гэтых прыстасаванняў на беларускіх прадпрыемствах, якія выпускаюць электронную тэхніку.

Малады вучоны атрымаў аўтарскае пасведчанне на сваё вынаходніцтва, а сістэматызаваны ім матэрыял лёг у аснову дысертацыі на тэму: «Даследаванне перадачы аптычнага адлюстравання рассейваючымі і люмінесцыруючымі пластамі».

Я іду па доўгім калідоры будынка, на фасадзе якога прымацаваны макет ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга. Па абодвух баках калідора — дзверы, на некаторых таблічкі, якія папярэджваюць: «Не ўваходзіць! Ідзе эксперымент!» Недзе тут, побач, здзяйсняецца цуд. Дапытлівая чалавечая думка пранікае ў глыбокія таямніцы, захаваныя прыродай у малекулярных структурах. Недзе тут, побач, мае сучаснікі, мае равеснікі разблытваюць гэтыя хітраспляценні, і электроны зрываюцца са сваіх арбіт, рухаючыся па новых шляхах, падказаных чалавекам.

Міжволі замаруджваю крокі. Цішыня. Ідзе эксперымент.

**Аркадзь БРЖАЗОЎСКІ.**

*Фота Д. Чаховіча.*



# ЖЫВЕ ТАКАЯ ТРАДЫЦЫЯ

У прамове на III з'ездзе РКСМ У. І. Ленін гаварыў, што моладзь краіны Саветаў павінна кожны дзень практычна рашаць хаця б самую маленькую і самую простую задачу агульнай працы, што «толькі ў працы разам з рабочымі і сялянамі можна стаць сапраўдным камуністам».

Верныя ленінскаму запавету і традыцыям старэйшых пакаленняў, камсамольскія арганізацыі вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі заўжды былі застрэльшчыкамі ў грамадска-карысней рабоце. Студэнцтва актыўна ўдзельнічала ў агульнай працы і барацьбе свайго народа за хутчэйшую ліквідацыю вынікаў вайны, за аднаўленне і ўздым народнай гаспадаркі.

Высока цэнячы давер'е партыі, студэнцкая моладзь з энтузіязмам адгукнулася на ўсе яе заклікі. Гэта асабліва наглядна праявілася ў гады чацвёртай пяцігодкі. Абмяркоўваючы на сваіх сходах матэрыялы пяцігадовага плана аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі, студэнты мінскіх вышэйшых навучальных устаноў — педагагічнага, політэхнічнага, юрыдычнага інстытутаў, БДУ імя У. І. Леніна — звярнуліся з пісьмом да ўсіх камсамольцаў і моладзі рэспублікі. У гэтым звароце гаварылася, што юнакі і дзяўчаты Савецкай Беларусі павінны сваёй працай дапамагчы партыі і народу хутчэй адрадзіць прамысловасць, сельскую гаспадарку і культурныя ўстановы. Вышэйшыя навучальныя ўстановы вырашылі ўзяць шэфства над буйнейшымі новабудоўлямі прамысловасці — Мінскімі аўтамабільным і трактарным заводамі. Студэнты Белдзяржуніверсітэта і юрыдычнага інстытута стварылі пры заводскіх клубах пастаянна дзеючыя лекторыі, дапамагалі камсамольскім арганізацыям наладжваць іх работу.

Каб дапамагчы рабочым, якія прыйшлі на заводы з незакончанай сярэдняй адукацыяй, студэнты Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага прынялі ўдзел у стварэнні вячэрніх школ на аўтамабільным і трактарным заводах, многія былі тут кансультантамі, выкладчыкамі.

Будучыя спецыялісты наладжвалі ў рабочых калектывах вечары адпачынку, выступалі з канцэртамі, арганізоўвалі агульнаадукацыйную і тэхнічную вучобу моладзі. У першыя пасляваенныя гады ва ўсіх вну рэспублікі пачалі дзейнічаць студэнцкія агітбрыгады, якія выязджалі ў вёскі, да сельскай моладзі.

Добры пачын камсамольцаў і моладзі мінскіх вышэйшых навучальных устаноў быў шырока падхоплены студэнтамі ўсіх вну Беларусі.

Сяброўства студэнтаў з рабочымі, народжанае ў пасляваенныя гады, расло і ўмацоўвалася. Ужо ў 1956 годзе ў Мінску не было ніводнага рабочага інтэрната, дзе б не працавалі студэнты. Яны ўдзельнічалі ў рэйдах санітарных праверак, у арганізацыі вечароў, лекцый, гутарак. Вялікай папулярнасцю сярод заводскіх юнакоў і дзяўчат карысталіся дыспуты, канферэнцыі, вечары пытанняў і адказаў, праведзеныя разам са студэнтамі. Напрыклад, восенню 1960 года на Мінскім аўтазаводзе прайшлі дыспуты: «У чалавеку павінна быць усё цудоўнае», «Ці гатовы ты жыць пры камунізме?» і г. д.

Студэнцтва ўсё часцей наведвалася ў вёску, умацоўвала творчую садружнасць з сельскай моладдзю. Гэтая даўняя традыцыя асабліва праявілася ў год Ленінскага юбілею.

Голас студэнтаў-лектараў гучаў у заводскіх цэхах, у калгасных брыгадах, на фермах. Студэнты разам з рабочай і сельскай моладдзю арганізавалі навукова-тэарэтычныя канферэнцыі па працах Уладзіміра Ільіча Леніна, чыталі лекцыі, даклады. У летні час на вясковых будоўлях вы-

датна праявілі сваю творчую актыўнасць будаўнічыя атрады. Студэнты не толькі працавалі, але і праводзілі вечары, выступалі перад калгаснікамі. Толькі за адзін трэці семестр агітбрыгады прачыталі 1.115 лекцый, правялі 800 гутарак. Пры будаўнічых атрадах дзейнічалі 174 вучэбна-кансультацыйныя пункты для абітурыентаў вну і тэхнікумаў.

Будучыя спецыялісты праходзілі тут добрую школу агітацыйнай, лектарскай, прапагандысцкай дзейнасці.

Памятаючы традыцыі саракавых-пяцідзесятых гадоў, сёння студэнцтва памагае гарадской і сельскай моладзі выбраць дарогу ў жыццё пасля школы. Формы і метады тут разнастайныя. Напрыклад, па заданні камітэтаў камсамола каля 600 студэнтаў Міншчыны ў 1970 годзе выязджалі ў падшэфныя раёны, на будоўлі, прамысловыя прадпрыемствы. Студэнты выступалі з гутаркамі пра свае інстытуты, расказвалі пра камсамольскія традыцыі, давалі кансультацыі. У часе зімовых канікулаў 1970 года ў аб'яднаным агітпаходзе прынялі ўдзел 870 студэнтаў. Агітбрыгады пабывалі ў 26 раёнах Мінскай вобласці, дзе правялі звыш 2.300 гутарак, далі 409 канцэртаў. За гэтымі лічбамі — вялікая работа камсамольскіх арганізацый Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага, беларускага тэхналагічнага інстытута імя С. М. Кірава, Белдзяржуніверсітэта, Мінскага інстытута замежных моваў.

У БДУ імя У. І. Леніна добра арганізавана работа завочных падрыхтоўчых курсаў, галоўным чынам, для сельскай моладзі глыбінных раёнаў. Выкладчыкамі гэтых курсаў працавалі студэнты старэйшых курсаў, аспіранты. Пры камітэце камсамола ўніверсітэта такія курсы існуюць другі год. У мінулым навучальным годзе іх наведвала 200 чалавек, у асноўным гэта рабочыя трактарнага, аўтамабільнага заводаў і іншых прамысловых прадпрыемстваў Мінска. Курсы складаюцца з чатырох аддзяленняў: гісторыка-філалагічнага, геаграфічнага, хіміка-біялагічнага, фізіка-матэматычнага.

Многае зрабілі і робяць камсамольцы вну па выкананні пастановы ЦК ЛКСМ Беларусі ад 29 студзеня 1970 года «Аб павышэнні ролі камсамольскіх арганізацый у падрыхтоўцы рабочай і сельскай моладзі да паступлення на вучобу ў вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы». Тут трэба асабліва адзначыць дзейнасць камсамольскіх арганізацый Віцебскага педагагічнага інстытута імя С. М. Кірава, Гродзенскага педагагічнага інстытута імя Я. Купалы.

Важным вынікам работы моладзі вну рэспублікі ў юбілейным 1970 годзе з'явілася далейшае ўмацаванне сувязі студэнцтва з рабочым класам, калгасным сялянствам. Творчая дружба з рабочымі, калгаснікамі карысная і для саміх студэнтаў; яны бліжэй зведваюць жыццё, знаёмяцца з лепшымі працоўнымі традыцыямі.

**Лідзія МАКСІМАВА,**
**аспірантка кафедры гісторыі КПСС**
**БДУ імя У. І. Леніна.**



# ПАСЛЯ ЭКЗАМЕНАЎ



**Чытачам «Маладосці», цяперашнім старшакласнікам і навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, безумоўна, цікава ведаць, як прайшлі сёлета прыёмныя экзамены ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна. Наш карэспандэнт звярнуўся да адказнага сакратара прыёмнай камісіі, дэкана хімічнага факультэта Фёдара Мікалаевіча КАПУЦКАГА з просьбай расказаць пра вынікі экзаменаў.**

З першага верасня вышэйшыя навучальныя ўстановы папоўніла вялікая армія здольнай моладзі. Толькі ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт на дзённую форму навучання прыйшло больш за 1800 студэнтаў.

У Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна цяпер дзесяць факультэтаў. Вас цікавіць, колькі студэнтаў прынята на кожны факультэт? Які конкурс давялося вытрымаць абітурыентам? Колькі балаў неабходна было набраць, каб ажыццявіць сваю мару — стаць студэнтам?

На стацыянар на ўсе факультэты было пададзена 5 448 заяў. 946 абітурыентаў мелі двухгадовы працоўны стаж, сярод іх былі і воіны, звольненыя ў запас. Размяркоўваліся яны па факультэтах даволі нераўнамерна — 650 з 946 падалі заявы на юрыдычны, гістарычны і на факультэт журналістыкі. Дарэчы, на юрыдычны і гістарычны конкурс быў самы вялікі. Не меншы быў і на аддзяленне рускай мовы і літаратуры — на сто месц было пададзена 516 заяў, а на геаграфічны факультэт — 447 заяў на 125 месц. На біялагічны і хімічны, на факультэт прыкладной матэматыкі, аддзяленне радыёфізікі і электронікі фізічнага факультэта конкурс быў у сярэднім 2,5—2,8 чалавека на месца, а на матэматычны факультэт і аддзяленне фізікі фізічнага факультэта — толькі 1,3. Але прахадны бал быў даволі высокі на ўсіх факультэтах. Каб паступіць ва ўніверсітэт, абітурыент мог здаць толькі адзін экзамен на «чацвёрку». Усе ж астатнія — на выдатна. Гэта значыць, што на экзаменах ён мог страціць не больш аднаго бала. У прыватнасці, так было на хімічным, біялагічным і гістарычным факультэтах. Нават не ўсе абітурыенты, якія атрымалі адну «чацвёрку», былі прыняты ва ўніверсітэт на стацыянар. Іх залічылі на вячэрняе ці завочнае аддзяленні.

Поўнасцю з адным згубленым балам былі залічаны паступаючыя на філалагічны, юрыдычны і геаграфічны факультэты. З дзвюма «чацвёркамі» залічваліся абітурыенты на факультэты прыкладной матэматыкі, журналістыкі, аддзяленне радыёфізікі і электронікі фізічнага факультэта. Трохі ніжэйшы прахадны бал быў на матэматычны факультэт і аддзяленне фізікі — фізічнага.

Сёлета сярод абітурыентаў 291 чалавек меў залаты медаль, а 627 выпускнікоў сярэдніх школ былі з пахвальнымі граматамі. Цікава, што большасць з іх пайшла на хімічны факультэт, які па плане мог прыняць 150 чалавек. На аддзяленне фізікі паступалі 44 медалісты і 72 выпускнікі з пахвальнымі граматамі. Трохі менш было такіх абітурыентаў на аддзяленні радыёфізікі і электронікі, а таксама на факультэце прыкладной матэматыкі. Усяго на пералічаныя факультэты паступалі 201 медаліст і 415 абітурыентаў з пахвальнымі граматамі. Агульная лічба заяў на гэтыя факультэты была такая — 1 784. Праўда, і план набору быў немалы. Ён складаў пяцьдзесят працэнтаў ад універсітэцкага.

Перш чым расказаць пра вынікі ўступных экзаменаў, папярэдне зазначу: дарэмна некаторыя юнакі і дзяўчаты лічаць, што гісторыя і літаратура — прадметы лёгкія. Зусім не выпадкова пры такім вялікім конкурсе на гістарычным, юрыдычным, філалагічным факультэтах невысокія паказчыкі ўступных экзаменаў. Вось прыклады. З 826 абітурыентаў юрыдычнага факультэта ўсе экзамены на выдатна здалі ўсяго дзесяць чалавек. На факультэце журналістыкі з 211 паступаючых толькі трое атрымалі круглыя «пяцёркі». А на аддзяленні беларускай мовы і літаратуры з 378 абітурыентаў ніводзін не здолеў уступныя экзамены здаць на выдатна. У той жа час на аддзяленні фізічнага факультэта з 416 чалавек 25 паступаючых атрымалі «пяцёркі». На біялагічным з 377 выдатныя веды паказалі 22 чалавекі. А на хімфаку з 370—25 чалавек.

Дзе тут прычына? Хіба ва ўсім вінавата сярэдняя школа? Пэўна, не.

Я лічу, што ў нас не ўсё добра з прафесіянальнай арыентацыяй. Маладыя людзі, нават тыя, якія пэўны час папрацавалі на прадпрыемствах, будоўлях, ва ўстановах, дрэнна вызначаюць сваю жыццёвую дарогу, не шукаюць прафесіі па душы. Акрамя таго, да паступлення ў вышэйшую навучальную ўстанову яны не рыхтуюцца належным чынам. А магчымасці для гэтага невычарпальныя. Да паслуг выпускнікоў школ усё: і перадачы па тэлебачанні, і шырокая сетка падрыхтоўчых курсаў, і вучэбныя дапаможнікі. Патрабуецца толькі працаздольнасць і жаданне вучыцца. З гэтай мэтай я хачу прыгадаць словы Карла Маркса, што ў навуку няма шырокай і прамой дарогі; да яе вяршынь вядуць камяністыя сцежкі...

Няўдачу многіх паступаючых можна вытлумачыць толькі слабай вучобай у сярэдняй школе і дрэннай падрыхтоўкай да ўступных экзаменаў. Гэта асабліва датычыць пісьмовых работ па мове і літаратуры. Здзіўляе тое, што з абітурыентаў, якія паступалі на філалагічны і факультэт журналістыкі, толькі лічаныя юнакі і дзяўчаты напісалі сачыненне на выдатна. А вось па матэматыцы на фізіка-матэматычныя спецыяльнасці «пяцёрак» было нямала. Дарэчы, як сцвярджаюць самі філолагі, якія правяралі сачыненні на гэтых факультэтах, выдатных адзнак тут было ўвогуле больш. А здавалася, што на філалагічны і на факультэт журналістыкі павінны былі ісці найбольш здольныя менавіта ў сэнсе мовы і літаратуры выпускнікі сярэдніх школ.

Апошняе наводзіць на думку, што многія паступалі не туды, дзе іх прызванне, а абы трапіць у ВНУ. Такія абітурыенты гублялі час і ўпэўненасць у свае сілы.

У заключэнне скажу некалькі слоў пра «абітурыента-70». Узровень яго падрыхтоўкі, агульнае развіццё значна вышэйшыя, чым некалькі гадоў назад. На ўсіх факультэтах, на ўсіх аддзяленнях было шмат абітурыентаў, якія выдатна здалі ўступныя экзамены. Яны паказалі сапраўды глыбокія веды. Гэта вельмі прыемна, гэта радуе. Хацелася б, каб такіх выпускнікоў сярэдніх школ з кожным годам было ўсё больш. І нашы намаганні, уся наша работа павінна скіроўвацца менавіта да гэтага.




# 1971



Полацкі Сафійскі сабор.

**950** гадоў назад (1021) упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца г. Віцебск.

**905** гадоў назад (1066) закончылася будаўніцтва Сафійскага сабора ў г. Полацку, выдатнага помніка старажытнага дойлідства XI стагоддзя. Будаўніцтва пачалося ў 1044 г.

**855** гадоў назад (1116) упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца г. Слуцк.

**810** гадоў назад (1161) полацкі ювелір Лазар Богша зрабіў так званы «Крыж Еўфрасінні», выдатны помнік старажытнага мастацтва Беларусі.

**110** гадоў назад (1861) нарадзіўся Е. Ф. Карскі, вучоны-філолаг, заснавальнік беларускага мовазнаўства і філалогіі. Нарадзіўся ў Гродзенскай губерні. Памёр у 1931 г.

**110** гадоў назад (1861) нарадзіўся І. Т. Буйніцкі, беларускі тэатральны дзеяч, заснавальнік беларускага прафесійнага тэатра. Памёр у 1917 годзе.

**70** гадоў з часу ўзнікнення (1901) іскраўскіх груп на Беларусі.

**60** гадоў назад (1911) нарадзіўся Ю. А. Таўбін, беларускі паэт. Памёр у 1940 г.

**50** гадоў назад (1921) Янка Купала пераклаў на беларускую мову «Інтэрнацыянал».

**40** гадоў назад (1931) пры Акадэміі навук БССР створаны інстытут аспірантуры.

**40** гадоў назад (1931) заснаваны Батанічны сад Акадэміі навук БССР.

**40** гадоў назад (1931) у Мінску адкрыты педагагічны і юрыдычны інстытуты.

**40** гадоў назад (1931) у Мінску створаны Беларускі тэатр юнага гледача (ТЮГ).



Е. Ф. Карскі.



І. Т. Буйніцкі.

Ю. А. Таўбін.





С. С. Аксакаў.



У. Г. Вафіядзі.



А. Я. Туранкоў.

Б. І. Ладыгін.



## СТУДЗЕНЬ

**1**

**Утварэнне Беларускай ССР (1919).**

**5—13**

40 гадоў назад (1931) працаваў X з'езд ЛКСМ Беларусі.

**6**

80 гадоў з дня нараджэння (1891) С. С. Аксакава, кампазітара. Памёр у 1969 г.

**10**

60 гадоў з дня нараджэння (1911) У. Г. Вафіядзі, доктара фізіка-матэматычных навук, прафесара, загадчыка кафедры электрафізікі фізічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

**10—12**

15 гадоў назад (1956) працаваў XIX з'езд ЛКСМ Беларусі.

**12**

75 гадоў з дня нараджэння (1896) М. Р. Чыжэўскага, вучонага-агратэхніка, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.

**15**

50 гадоў назад (1921) у Мінску пачало працаваць Беларускае бюро Расійскага тэлеграфнага агенцтва РОСТА (БелРОСТА).

**16**

50 гадоў назад (1921) апублікаваны дагавор аб ваенным і гаспадарчым саюзе паміж РСФСР і БССР.

**16**

70 гадоў з дня нараджэння (1901) М. А. Міцкевіча, вядомага рэжысёра і акцёра, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР. Памёр у 1954 г.

**21**

85 гадоў з дня нараджэння (1886) А. Я. Туранкова, вядомага беларускага кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтва БССР. Памёр у 1958 г.

**24—27**

15 гадоў назад (1956) працаваў XXII з'езд КП Беларусі.

**28**

75 гадоў з дня нараджэння (1896) Б. І. Ладыгіна, доктара тэхнічных навук, прафесара Беларускага політэхнічнага інстытута, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.

**30**

50 гадоў з дня нараджэння (1921) І. П. Шамякіна, вядомага беларускага пісьменніка.




**У снежні выходзіць пяцісоты нумар літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса**

# «ПОЛЫМЯ»

***«Маладосць» віншуе свайго старэйшага брата і таварыша і жадае яму высокага творчага гарэння на карысць і славу роднага слова.***

ЯГО ЧАСТА можна было бачыць на вуліцах Вены, але больш за ўсё ён любіў прагулкі ў Шэнбрунскім парку, дзе рэдка сустрэнеш каго-небудзь з паклоннікаў. Каржакаватая постаць крыху ніжэй сярэдняга росту, модныя белыя панчохі, светлыя панталоны і гэткага ж колеру камізэлька, вакол шырокага каўняра — белы гальштук. Вось толькі капялюш... Ён з лямцу і ўвесь пацямнеў ад дажджу і пылу. Дзіўнае адступленне ад моды...

Яшчэ больш дзіўных адступленняў ад умоўнасцяў, уласцівых людзям яго асяроддзя, знаходзілі сучаснікі ў яго кватэры. Вось доктар фон Бурсі назірае, як ён працэджвае сваю каву ў шкляную перагонную рэторту. На раскладзеных вакол паперах, скрэсленых уздоўж і ўпоперак, валяюцца кавалкі ламбардскага сыру; падлога, крэслы, нават фартэпіяна завалены ўсякай непатрэбшчынай. «Вы скажаце, гэта кватэра? — ускліквае італьянскі кампазітар Керубіні. — Ды гэта ж самая сапраўдная мядзведжая бярлога!»

Зрэшты, усё гэта дробязі, геній мае права на свае маленькія дзівацтвы. Але гэты «невыносны» характар: яго аж калоціць, калі ён пачынае «разносіць» сваіх ворагаў. Прычым аднолькава дастаецца ўсім: італьянскай музыцы, «агіднаму, смярдзючаму дымавому коміну», аўстрыйскаму ўраду, кватэры, якая выходзіць вокнамі на поўнач. Не лёгка з ім і яго сябрам, добразычліўцам. Вучань і вялікі прыхільнік яго таленту эрцгерцаг Рудольф заказаў яму фанфары для каруселі. Адразу чуецца з'едлівы адказ: «Папрошаная конская музыка самым хуткім галопам прыбудзе да вашай імператарскай вялікасці». Аднойчы князь Ліхноўскі паспрабаваў яму пярэчыць, і толькі цуд выратаваў князя ад цяжкага дубовага крэсла, якое паляцела ў яго. «Па-мойму, ён напалову вар'ят», — безапеляцыйна заявіла спявачка Магдалена Вільман, з якой ён некалі спадзяваўся звязаць свой лёс.

Так, ладзіць з ім было нялёгка. Ён наўмысна зачэпіць то аднаго, то

# СПАТКАННЕ З БЕТХОВЕНАМ

## ДА 200-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

другога, высмее добра знаёмыя недахопы, адштурхне ад сябе чалавека, які гатовы на многае дзеля дружбы з геніем, бо гэта надавала яму вялікую вагу ў сваіх уласных вачах. Магчыма таму пры жыцці, ды і пасля, калі яго не стала, пайшло гуляць па музычных салонах з'едлівае слоўца «мізантроп». Быццам і не было ніколі пяшчотнага, з самых юнацкіх гадоў сяброўства з Брэйнінгамі і Вегелерам, нібы выдумкай была яго прывязанасць да філосафа і музыканта Амендэ. Былі сваркі, здавалася, вось-вось распадзецца сяброўства, — але гэта толькі так здавалася. «Пачуццё сяброўства, — гаварыў ён, — з'яўляецца рычагом усяго, што толькі ёсць вялікага». Гэтае пачуццё памагала яму забываць разлад, і тады ў ім адкрываліся самыя прывабныя бакі характару: дабрата, вялікадушнасць, высакароднасць. А як ён аднойчы раззлаваўся, калі яго вучань Фердынанд Рыс утаіў ад яго сваё цяжкае матэрыяльнае становішча: «Чаму вы ўтаілі ад мяне сваю нястачу? Ніхто з маіх сяброў не павінен жыць бедна, пакуль я маю хоць што-небудзь».

Звесткі пра яго жыццё скупыя і адрывачныя. Ёсць выдатныя асобы, чыё жыццё цалкам можа ўмясціцца ў адной біяграфічнай працы. Людвіга ван Бетховена кожнае новае пакаленне адкрывае для сябе нанава, кожны дотык да яго творчасці выклікае новыя пытанні. Але нязменна адно: рана ці позна кожны з нас схіляецца над разрозненымі лісткамі яго біяграфіі, каб глыбей адчуць веліч яго подзвігу ў мастацтве.

...Бон у тыя далёкія часы быў падобны на маленькі дрымучы астра-







Андрэй **ЗАСПІЦКІ. Людвіг ван Бетховен.** Скульптура.

вок, згублены ў пышнай зеляніне каштанаў. Тут, на Бонгасе, у сціплым, нават бедным доме, нарадзіўся ў сям'і Іагана і Марыі-Магдалены сын Людвіг ван Бетховен.

Абставіны, у якіх ён рос, на першы погляд падобныя на тыя, у якіх рос Моцарт. Бацькі абодвух будучых кампазітараў былі музыканты. Як толькі ў дзяцей выявіліся першыя прыкметы таленту, іх адразу ж пачалі вучыць таямніцам будучай прафесіі. Але цяжкія ўмовы сям'і пазбавілі маленькага Бетховена таго, у чым пашанцавала Моцарту. У Людвіга не было настаўніка, які памог бы яму ў жыцці і мастацтве і накіраваў яго першыя крокі. Самыя блізкія, родныя яму людзі былі самымі далёкімі па духу. Бацька часта прыходзіў дадому п'яны, і пачыналіся сцэны, якія пасля з такою горыччу ўспамінаў ён усё жыццё.

Першым настаўнікам Бетховена ў поўным сэнсе гэтага слова стаў Хрысціян Нэфе. На юнага Людвіга ўскладаліся вялікія спадзяванні. Голас у яго быў не вельмі добры, а так можна было вучыць яго на спевака. З інструментаў, на якіх ён іграў, арган абяцаў найбольшыя выгады, ды і ў якасці арганіста ён раней мог дасягнуць самастойнасці. З дапамогаю Нэфе ў чэрвені 1782 года Людвіга ўладкоўваюць памочнікам арганіста. Пра тое, як ішло навучанне, расказвае яго настаўнік:

«Людвіг ван Бетховен, хлопчык адзінаццаці гадоў, шматабяцаючы

талент. Ён дасканала валодае фартэпіяна, мае моцны ўдар, лёгка чытае з ліста; дастаткова сказаць, што ён іграе большую частку Wohltemperiertes Clavier Себасцьяна Баха... Той, хто знаёмы з гэтым зборам прэлюдый і фуг ва ўсіх танах, зразумее, што гэта значыць... Гэты малады геній заслугоўвае падтрымкі для падарожжа. Ён несумненна будзе другі Вольфганг Амадэй Моцарт, калі і ў далейшым будзе праяўляць такія ж поспехі».

На маладога музыканта пачалі звяртаць увагу. У пачатку 80-х гадоў Бетховен знаёміцца з маладым студэнтам-медыкам Францам Вегелерам, які ў сваю чаргу пазнаёміў яго з сям'ёю Брэйнінг, дзе Людвіга акружылі атмасферай утульнасці і пяшчоты — гэтага ён ніколі не адчуваў у сваёй сям'і.

У друку паяўляюцца яго тры санаты для фартэпіяна. Ён сам пачынае даваць урокі музыкі, хоць не спыняе заняткаў у Нэфе. Акрамя таго, што ён працуе арганістам пры двары курфюрста, Бетховен з захапленнем працуе і над сваімі ўласнымі творамі.

Важнейшай падзеяй у жыцці юнака была паездка ў Вену — там ён вырашыў закончыць сваю адукацыю. Ён распраўляў свае крылы, як сокал перад узлётам, накопленая энергія і вопыт шукалі выйсця.

«Звярніце на яго ўвагу, ён калі-небудзь прымусіць гаварыць пра сябе ўвесь свет», — здзіўлена сказаў аднойчы Моцарт, калі ў яго прысутнасці Бетховен праявіў здзіўляючую арыгінальнасць у распрацоўцы дадзенай яму музычнай тэмы.

Само сабою зразумела, што такі музыкант як Бетховен не мог доўга заставацца незаўважаным у Вене, дзе ўсё дыхала высокай культурай выканаўчага майстэрства. Праз год пасля прыезду ён ужо прызнаецца лепшым піяністам Вены, перад ім раскрываюцца салоны вышэйшай знаці. На акадэмічных вечарах у ван Світэна, паклонніка Баха і Гендэля, ён выклікае такі ж шквал апладысментаў, як на канцэртах сучаснай музыкі.

А кампазітарская слава марудзіла. У Вене гаварылі толькі пра Моцарта — ён быў некаранаваным каралём музычнага свету. Публіка з большай ахвотай прытрымлівалася ўзораў музыкі мінулага і не заахвочвала смельчакоў, якія адважваліся ісці сваім шляхам. Разумеючы гэта, Бетховен не спяшаўся публікаваць многія свае творы. Не, ён не мае патрэбы ў стараннях князя Ліхноўскага, які развучваў яго творы, каб даказаць, што іх можна выконваць на фартэпіяна. І няхай руцінная крытыка бывае часам жорсткай, несправядлівай да яго — ён пераадольвае супраціўленне нядобразычліўцаў, іх зайздрасць і неразуменне. За «Адэлаідай», араторыяй «Хрыстос на Маслічнай гары» і Другой сімфоніяй адкрывалася прывабная магчымасць напісаць оперу — заняцца гэтым прапануе яму тэатральны антрэпрэнёр Шыкандэр...

Бетховен увесь у роздуме, усё новыя думкі і планы ахопліваюць яго. Стымулам для развіцця яго выдатных здольнасцяў, крыніцай яго творчасці было жыццё, якое цягнула яго ў свет падзей і захапленняў свайго часу. Магчыма таму нам так добра зразумелы яго гнеў, калі ён, даведаўшыся пра каранацыю Напалеона, разрывае тытульны ліст рукапісу з прысвячэннем свайму ранейшаму куміру і цвёрдаю рукой выводзіць новы загаловак Eroica («Гераічная»).

Пра тое, які ён быў у той час, расказваюць многія. Вядома, напрыклад, што ў творчым экстазе ён часам траціў уяўленне пра навакольны свет і да такой ступені пагарджаў сваёй знешнасцю, што аднойчы быў прыняты за бадзягу і ўзяты пад ахову. Але ў той жа час як умее ён весці барацьбу з «падземнымі сіламі», якія прымушаюць яго «кожны раз зноў апускаць позірк, накіраваны ўверх»!

Гэтыя сілы — пошлае акаляючае асяроддзе. Генерал Банапарт, якога ён у свой час цаніў за рэвалюцыйныя імкненні, узяў у свае рукі самадзяржаўную ўладу і жорстка карае рэспубліканцаў. А як лёгка спеліся ясна-вяльможныя гаспадары Аўстрыі, калі імператар французаў ступіў на іх зямлю... Палітыка заўсёды жыва цікавіла Бетховена. Ён пільна сочыць за ўсім, што адбываецца ў краіне. Не ўпускае самага нязначнага выпадку, каб прадэманстраваць непрыязнасць да тагачаснага аўстрыйскага ўрада, які толькі і ведае, што абкладаць народ новымі падаткамі.





Адным з самых яркіх імгненняў жыцця стала для Бетховена славутая «Апасіяната». Здаецца, у ёй кампазітар паслухмяны не столькі правілам традыцыйнай гармоніі, колькі покліччу свайго генія — настолькі палымяная гэтая музыка, настолькі глыбока працінае яна ўсю нашу істоту.

Вось Бетховен кіруе ўраганнымі віхурамі «Гераічнай». На тэме з чатырох нот ён узводзіць высачэзны звод «Алегра», дзе пераплятаецца мноства матываў, каб потым выбухнуць у адным нястрымным парыве. Нарэшце, Дзевятая, якая па праву лічыцца завяршэннем усяго яго жыцця. Пра яе нельга гаварыць словамі — яны гаснуць і бляднеюць перад веліччу карцін, створаных вялікім музыкантам. У ёй тоіцца такая сіла пратэсту супраць несправядлівасці, такое пачуццё любві да прыгнечаных і абяздоленых, да ўсяго чалавецтва, што яе можна супаставіць толькі з геніяльнымі творамі Мікеланджэла. Паволі падводзіць Бетховен слухача да кульмінацыі сваёй думкі — «Оды да радасці». Радасць затапляе нашу істоту, калі мы ўваходзім у «храм, дзе ўсе людзі стануць братамі»:

«Обнимитесь, миллионы!
Слейтесь в радости одной!»

Адкуль жа гэтая зрокавая яркасць вобразаў яго музыкі, чаму мы так глыбока перажываем яе, нібы яна становіцца самай запаветнай часткай нашай душы? Для Бетховена пісаць музыку азначала тое ж, што тварыць паэзію высокага мужнага напалу. Тут ключ да ўнутранага жыцця вялікага кампазітара, які ўвасабляе ў магутных вобразах свой не менш магутны духоўны тэмперамент. Яны, гэтыя вобразы, нязменныя ў сваім імкненні да свабоды. І сам ён, іх стваральнік, ператвараецца ў героя, якому падуладны час і прастора, які здольны і павінен змяніць акаляючы свет. Гэтае пераканне ў Бетховена непахіснае, і кожны яго твор сцвярджае гэта.

Ён шмат гадоў хварэў цяжкай хваробай вушэй і ў канцы свайго жыцця зусім аглух — для размовы яму служыў спецыяльны сшытак. Але ён добра чуў свет і горача, усім сэрцам, успрымаў весткі аб звяржэнні Бурбонаў у Францыі, цікавіўся барацьбой народаў розных краін за сваё шчасце і свабоду. Невыпадкова ў героі Бетховена мы бачым не героя наогул, а палітычнага героя, які бачыць сваю мэту ў тым, каб сцерці з твару зямлі ўсё, што перашкаджае чалавецтву ісці ўперад. Ён палымяны дэмакрат і свае дэмакратычныя прынцыпы распаўсюджвае на ўсе галіны чалавечых адносін. Свабода, якая атрымана цаной самаахвяравання, — асноўная думка «Леаноры». У «Эгманце» і «Карыялане» героі гінуць за свабоду, якая не ведае духоўнага кампрамісу, нават калі на стаўцы — жыццё.

Сум, роспач ад уласнага бяссілля — усё гэта чужое герою Бетховена. Наперакор усяму ён палымяна любіць жыццё, нават калі гэтая радасць нараджаецца з пакут. Аднак гаворка ідзе не пра неабмежаваную свабоду. Карыялан гіне з-за празмернага самаўзвелічэння. Імя Напалеона з партытуры «Гераічнай» выкрэсліваецца таму, што ўчарашні рэспубліканец ператвараецца ў тырана. Ідэя свабоды па Бетховену — гэта шчасце, здабытае, адваяванае ў барацьбе з лёсам.

Барацьбе за святыя для яго ідэалы гуманізму вялікі кампазітар прысвяціў усё жыццё. Спадчына яго багатая, уздзеянне яго творчасці — невычарпальнае. Зноў і зноў, кожны раз нанава, перажываем мы запаветныя хвіліны спаткання з Бетховенам на канцэртах Святаслава Рыхтэра, Эміля Гілельса, Барыса Буднікава.

Любяць і цэняць творчасць геніяльнага кампазітара і ў нас на Беларусі. Мы памятаем у выкананні скрыпача Рамана Нобеля «Крэйцараву санату», карыстаецца вялікім поспехам «Апасіяната» ў выкананні Леаніда Юшкевіча, выкананне сімфоній Бетховена Дзяржаўным аркестрам БССР пад кіраўніцтвам Катаева.

Вялікая душа кампазітара працягвае раскрываць нам свае таямніцы, мяцежны дух яго музыкі не ведае ні адлегласці, ні перашкод — яна ў вечны дар усяму чалавецтву.

**Уладзімір ЕЛІСЕЕЎ.**

# ПА ПУЦЁЎЦЫ КАМСАМОЛА



Як і заўсёды, на камсамольскім сходзе было мнагалюдна і шумна. Панаваў узнёслы ўрачысты настрой. На гэта была свая прычына. Набліжаўся чарговы выпуск Чэлябінскай школы-дзесяцігодкі, і ўчарашнія школьнікі павінны былі падумаць пра заўтрашні дзень, абраць будучую прафесію.

— Сябры! Усе вы, напэўна, добра памятаеце наш мінулы сход,— пачаў каржакаваты юнак з жывымі вачамі на вяснушчатым твары.— Тады мы знаёміліся з пяцігадовым планам развіцця народнай гаспадаркі Савецкага Саюза. Ад гэтага плана аж дух займае! Наш родны Чэлябінск! Ён жа стане адным з цэнтраў металургічнай прамысловасці, горадам, дзе будзе буйнейшы трактарны завод! А вы ж ведаеце, што гаварыў пра сто тысяч трактараў Ленін? Дык няўжо мы, маладыя чэлябінцы, будзем убаку ад гэтых грандыёзных падзей? Прапаную ўсім нашым выпускным класам прасіцца на будоўлю трактарнага. І каб без дэзерціраў! А хто захоча вучыцца ў інстытуце, хай вучыцца завочна! Правільна я кажу?

— Правільна!

— Малайчына, Сяргей!

— Не будзе ў нас дэзерціраў!

— Даёш трактарны!

— Пішы, сакратар, у пратакол!

Рэзалюцыя была прынята аднагалосна, і самыя нецярплівыя пачалі ўжо уставаць з месц, як раптам старшыня сходу голасна сказаў:

— Чакайце, чакайце, таварышы! Ёсць яшчэ адно пытанне, якое нам неабходна вырашыць. Гарком камсамола вылучыў нашай школе пуцёўку ў Свярдлоўскі музычны тэхнікум. Як вы думаеце: скарыстаем мы яе, ці адашлем назад?

— Адашлем, адашлем! — пачуліся галасы.— Мы ж усім класам на будоўлю ідзем. Які там яшчэ музычны тэхнікум! Ды і каму патрэбна музыка ў такі гарачы час?

І тут з месца падняўся дырэктар школы. Пазіраючы на разгарачаных выхаванцаў добрымі разумнымі вачыма, хаваючы ўсмешку ў самых кутках вуснаў, ён сказаў:

— Я добра разумею ваш патрыятычны парыў і цалкам ухваляю рэзалюцыю камсамольскага сходу. Толькі ж нашай краіне патрэбны і музыкі, таксама, як будаўнікі ды металургі. Нехта тут сказаў: «Каму патрэбна музыка ў такі гарачы час?» А яна патрэбна кожнаму культурнаму чалавеку. Тут прыгадвалі словы Леніна пра сто тысяч трактараў. А я вам напомню, што Уладзімір Ільіч гаварыў і пра мастацтва, якое «павінна належаць народу». Словы гэтыя былі сказаны ў самы цяжкі для маладой савецкай дзяржавы час, калі наша краіна літаральна задыхалася, абкружаная ворагамі. І, урэшце, калі гарком камсамола прыслаў пуцёўку, значыць, надае гэтай справе вялікае значэнне. Так што не думаю, каб яе трэба было адсылаць назад. А ў нас і кандыдатура добрая ёсць, каб выкарыстаць гэтую пуцёўку — Пеця Падкавыраў!

І як гэта часта здараецца на маладзёжных сходах, настрой вучняў змяніўся.

— Правільна!

— Пеця добра на домры іграе!

— Увесь час школьнаму хору акампаніруе на раялі!

— Кіруе аркестрам народных інструментаў!

— Вось і давайце аддадзім яму пуцёўку,— падвёў вынік адзін з выпускнікоў. — Хай канчае тэхнікум, а мы тым часам завод пабудуем, аркестр і хор арганізуем, і нам ого як патрэбны будзе свой кіраўнік! Галасуем?

Лес узнятых рук быў адказам на прапанову юнака.

Так у 1928 годзе вырашыўся лёс выпускніка Чэлябінскай школы-дзесяцігодкі Пятра Падкавырава. Узрушаны, ён вяртаўся дахаты, і мімволі думкі яго перакінуліся на часы больш даўнія.

Вось перад ім узнік родны горад — такі, якім ён быў многа гадоў назад: гарадок з землянымі «тратуарамі» уздоўж вуліц, па якіх пасля дажджу было цяжка прайсці. Большасць дамоў былі драўляныя, у адзін паверх, і толькі ў цэнтры было некалькі двух-трохпавярховых цагляных дамоў. Адзіны ў горадзе чатырохпавярховы будынак займала турма, ці як яе называлі — цэнтрал. У горадзе было тры базары, трое могілак, дзесятак цэркваў ды ўтрая больш шынкоў.

І яму ўспомніўся бацька-пекар, ад якога заўсёды так смачна пахла баранкамі, а яшчэ — бацькаў гармонік, на якім той быў вялікі аматар іграць. Узнікла ў памяці, як праводзілі бацьку на вайну, і той сумны дзень, у які маці атрымала паперку са словамі: «Загінуў на Карпатах за веру, цара і айчыну»... Успомнілася яму і родная школа. Пеця добра іграў амаль на ўсіх народных інструментах, на скрыпцы, спяваў, добра маляваў, танцаваў, удзельнічаў у школьных спектаклях. Першым настаўнікам музыкі быў для яго арганіст Слаўцоў.

Узрушаны ўспамінамі, Пеця прыйшоў дахаты, моцна абняў маці і расказаў пра сваю радасць. А праз месяц ён развітаўся з горадам, дзе прайшло яго дзяцінства і юнацтва.

Свярдлоўскі музычны тэхнікум сустрэў юнака нязвыклым рознагалосым шумам. Спачатку ён крыху разгубіўся, бо ад прыроды быў сарамлівы, але неўзабаве асвоіўся і ў першы ж год зарэкамендаваў сябе як адзін з лепшых студэнтаў. Ён спрабуе свае сілы ў кампазіцыі, але сапраўдныя вынікі атрымаліся толькі пасля таго, як яму пашчасціла трапіць у клас кампазіцыі прафесара В. А. Залатарова. Тут Падкавыраў і напісаў свае першыя сур'ёзныя творы: варыяцыі для фартэпіяна, рамансы «Блакітнае возера», «На Далёкім Усходзе», а таксама песню «Чысці насенне», якая атрымала на конкурсе прэмію—500 рублёў.

У 1933 годзе прафесар Залатароў стаў загадчыкам кафедры кампазіцыі ў толькі што адкрытай Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, разам з ім у Мінск пераязджае і Пятро Падкавыраў. Тут малады музыкант набывае грунтоўныя тэарэтычныя веды, а разам з імі — свой «кампазітарскі почырк». Падкавыраў шукае адметныя шляхі ў музыцы, смела карыстаецца вострымі гарманічнымі спалучэннямі, складанымі рытмамі і мелодыкай. Гэтыя рысы яскрава праяўляюцца ў яго рамансах «Мужнасць», «Алеся», «Ішла ноч», у санаце для фартэпіяна, першым квартэце, варыяцыях на беларускую тэму і цэлым шэрагу іншых інструментальных твораў.

Для дыпломнай работы Падкавыраў абірае жанр сімфоніі і каля года інтэнсіўна працуе над ёю. Яго заўсёды хвалявалі гераічныя подзвігі камсамольцаў у гады грамадзянскай вайны і пасляваеннага будаўніцтва, радавалі пісьмы былых сяброў па камсамоле і школе — чэлябінскіх трактарабудаўнікоў. Адчуваў ён адказнасць і перад камсамольцамі кансерваторыі, якія абралі яго сваім сакратаром. Грамадскія абавязкі выконваў спраўна, бо добра памятаў, што пуцёўку ў жыццё атрымаў з рук камсамола.

Вось чаму свой першы буйны сімфанічны твор, у музыцы якога былі адлюстраваны самыя светлыя думкі аўтара, кампазітар прысвяціў Усесаюзнаму Ленінскаму Камуністычнаму Саюзу Моладзі.

Прайшлі дзяржаўныя экзамены, скончыліся хваляванні, адгрымелі воплескі пасля выканання яго камсамольскай сімфоніі. У кішэні ляжыць шэрая кніжачка са срэбным надпісам «Дыплом». Цяпер можна брацца за здзяйсненне задумы, якая даўно прасілася на паперу.

Мільёнам савецкіх юнакоў і дзяўчат заўсёды быў блізкі і дарагі вобраз Паўла Карчагіна. Перанесці гэты вобраз на сцэну, стварыць па кнізе «Як гартавалася сталь» оперу марыў малады кампазітар. І задума здзейснілася: у 1941 годзе опера была закончана ў клавіры і прынята да пастаноўкі ў Беларускім дзяржаўным тэатры оперы і балета. Але вайна не дала магчымасці давесці працу да канца.

Знаходзячыся далёка ад Беларусі, кампазітар усім сэрцам і думкамі жыве разам з беларускім народам, захапляецца яго гераічнай барацьбой, сочыць за подзвігамі беларускіх партызан. Усё гэта становіцца крыніцай яго творчасці. Так з'яўляецца Канцэрт для скрыпкі з сімфанічным аркестрам, прысвечаны гераічнаму подзвігу капітана Гастэлы, Другі струнны квартэт, напісаны ў памяць загінуўшых за свабоду і незалежнасць Радзімы, 24 прэлюдыі для фартэпіяна і іншыя творы.

Матывы гераікі пераважаюць у творчасці кампазітара і пасля яго вяртання ў вызвалены Мінск. Ён стварае вакаль-

ны цыкл «Партызаны» на словы Я. Купалы, Я. Коласа, П. Глебкі, М. Танка, П. Панчанкі, рамансы на словы П. Броўкі і М. Машары, шэраг песень пра герояў Вялікай Айчыннай вайны, кантату для салістаў, хору і аркестра «Балада пра чатырох заложнікаў», а праз некаторы час заканчвае харэаграфічную карціну для сімфанічнага аркестра «Партызанская ноч». Да твораў гэтага перыяду трэба аднесці і нанава напісаную Першую сімфонію, якая загінула ў часе вайны. Цяпер яна ўжо мела назву «Юнацтва». Праз музычныя вобразы кампазітар выяўляе свае асабістыя адносіны да раскрытых у сімфоніі падзей, да гераічных спраў камсамольцаў.

30-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі прысвяціў кампазітар сваю Другую сімфонію. У той час у Беларусі шырока разгарнулася гераічная праца па аднаўленні разбураных ворагам гарадоў і вёсак. Пафас мірнага будаўніцтва захапіў кампазітара, і ён стварае шэраг песень аб Радзіме і партыі, аб міры і дружбе народаў. Многія з гэтых песень трывала ўвайшлі ў рэпертуар прафесіянальных і самадзейных музычных калектываў і асобных выканаўцаў. Да іх належаць «Зубранё», «Дайце з гарачкі скаціцца», «Звенневая нам казала», «Брыгадзірка» і іншыя.

Тэме дружбы народаў прысвечана Трэцяя сімфонія Пятра Падкавырава, якая носіць назву «Мая Радзіма». У другой частцы сімфоніі, напісанай у форме варыяцый, кампазітар скарыстаў песенны матэрыял народаў, якія насяляюць многанацыянальны Савецкі Саюз.

У 1959 годзе Падкавыраў закончыў сваю найбольш буйную працу — оперу «Павел Карчагін». Да гэтай тэмы ён звярнуўся ў другі раз, бо нотны матэрыял оперы загінуў у часе Айчыннай вайны. Даваеннае лібрэта мела свае хібы: слабая драматургія, вялікая колькасць дзеючых асоб, расцягнутасць. Таму тэкст оперы кампазітар вырашыў напісаць сам, імкнучыся захаваць усю сілу і прывабнасць мовы Астроўскага і ў той жа час зрабіць яе зручнай для спявання.

Праца над лібрэта і музыкай оперы адначасова прынесла кампазітару несумненную карысць, дапамагла зліць у адно цэлае музычную і тэкставую тканіны твора. У 1962 годзе опера была выканана на радыё ў выглядзе музычнага мантажу. А праз пяць гадоў убачыла святло рампы: яе паставіла оперная студыя Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, дзе кампазітар працуе выкладчыкам.

Пятро Падкавыраў — аўтар першай у беларускай музыцы кантаты для дзіцячага хору, салістаў, чытальніка і сімфанічнага аркестра «Піянерскі касцёр міру» на словы Э. Агняцвет, дванаццаці п'ес для фартэпіяна пад агульнай назвай «У піянерскім лагеры», інструментальнай п'есы «Піянерыя» для скрыпкі і фартэпіяна, дзесяці апрацовак рускіх народных песень для дзяцей, некалькіх цыклаў жартоўных рамансаў і песень на тэксты Я. Купалы, С. Маршака, С. Міхалкова і іншых паэтаў.

Увагу кампазітара заўсёды прыцягвалі беларускія народныя інструменты, і ён зрабіў даволі значны ўклад у рэпертуар Дзяржаўнага народнага аркестра Беларускай ССР. У часе выступленняў аркестра нязменным поспехам у слухачоў карыстаюцца апрацоўкі беларускіх народных танцаў, зробленыя П. Падкавыравым — «Лявоніха», «Шастак», «Юрачка» і іншыя, яго арыгінальныя творы «Рапсодыя» і дзве «Калгасныя сюіты».

Падкавыраў — аўтар музыкі да радыёкампазіцый па паэмах А. Куляшова «Прыгоды цымбал» і «Толькі наперад», да шматлікіх тэатральных пастановак.

Сваю творчую дзейнасць Пятро Падкавыраў удала сумяшчае з педагагічнай. Ён вядзе ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі клас кампазіцыі. Гэтая акалічнасць адбілася і на яго творчых імкненнях, памагла яму напісаць нямала добрых і цікавых твораў вучэбна-педагагічнага рэпертуару. Акрамя шматлікіх інструментальных ансамбляў, напісаных раней, П. Падкавыраў толькі за апошні час напісаў некалькі санат для драўляных і медных духавых інструментаў і фартэпіяна, імправізацыі для скрыпкі з фартэпіяна, эцюды для фартэпіяна і многа іншых твораў.

Зусім нядаўна кампазітар нанава перарабіў свае Другую і Трэцюю сімфоніі, якія ў новай рэдакцыі сталі больш насычанымі, цікавымі ў аркестравым вырашэнні.

За шэсцьдзесят гадоў жыцця і сорак гадоў творчасці заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, кампазітар Пятро Пятровіч Падкавыраў паказаў сябе як выдатны майстар беларускай музыкі, пясняр народнага гераізму і славы.

**Дзмітры ЖУРАЎЛЁЎ,**
**заслужаны дзеяч культуры БССР.**



# ЗАЙЗДРОСНЫ ЛЁС МАЛАДНЯКОЎЦА

У тыя гады ён вучыўся ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках, вучыўся і ўзначальваў Аршанскі філіял «Маладняка». Буйнейшае літаратурнае аб'яднанне Беларусі мела ў той час свае аддзяленні ў многіх гарадах і мястэчках. Аршанскі філіял «Маладняка» лічыўся адным з найбольш значных і цікавых.

Філіял па прыкладзе іншых выдаваў свае зборнікі, праводзіў літаратурныя вечары, кансультаваў і творча дапамагаў пачынаючым паэтам і пісьменнікам. То быў час станаўлення і ўзмужнення беларускай савецкай літаратуры. У яе шэрагі прыходзілі новыя сілы з самых глыбінь народнага жыцця.

Аршанскія маладнякоўцы не так сабе абралі тады сваім кіраўніком горацкага студэнта Алеся Вечара. Сярод іх ён быў і самым актыўным, і самым аўтарытэтным. Алесь Вечар пісаў вершы, крытычныя артыкулы, рэдагаваў і кансультаваў творы сваіх таварышаў.

Часам у яго пыталіся:

— Аляксандр Сцяпанавіч, чаму вы абралі для сябе сельскагаспадарчы інстытут, а не літаратурны?

— Усебаковыя веды карысны літаратару,— адказваў Вечар,— а я люблю прыроду і займаюся ў вышэйшай навучальнай установе, якая вельмі блізкая майму сэрцу.

У 1930 годзе ў Мінску выйшла першая кніга вершаў Алеся Вечара «Кола дзён». Вершы маладога паэта спадабаліся чытачам і атрымалі ў прэсе добрую ацэнку. Адначасова аўтар-маладняковец займаўся і перакладамі. Так, ён пераклаў на беларускую мову «Домік у Каломне» А. Пушкіна. Пераклад быў выдадзены асобнай кніжкай. У той час, а гаворка ідзе пра перыяд станаўлення «Маладняка», вершы Алеся Вечара часта паяўляліся ў часопісах, зборніках. На маладога паэта звярнулі ўвагу Янка Купала, Якуб Колас і параілі яму працягваць літаратурную творчасць.

Горацкая сельскагаспадарчая акадэмія была скончана. Маладога спецыяліста клікалі да сябе на свае дарогі літаратура і аграномічная навука. Па дзвюх дарогах адначасова не пойдзеш. Яшчэ паступаючы ў сельскагаспадарчую акадэмію, Аляксандр Сцяпанавіч як бы вызначыў свой далейшы шлях: лес, зямля. Ён заўсёды любіў прыроду. Пасля заканчэння Горацкай акадэміі родная прырода як бы стала для маладога спецыяліста яшчэ больш блізкай і дарагой. Але ўжо не ў вершах ён усхваляў яе, а адлюстроўваў у сваіх навуковых працах. Аляксандр Сцяпанавіч працуе ў навукова-даследчым інстытуце сельскай і лясной гаспадаркі, у інстытуце харчовай прамысловасці.

У гады Вялікай Айчыннай вайны ён працягваў сваю навуковую дзейнасць у Краснадары. Пасля вайны Алеся Вечара пацягнула ў родныя мясціны. Аляксандр Сцяпанавіч прыходзіць у Акадэмію навук Беларусі як вучоны-біёлаг. Яго навуковыя пошукі ідуць ў раздзеле біяхіміі. Аляксандр Сцяпанавіч узначальвае аддзяленне біяхіміі ў Інстытуце эксперыментальнай батанікі. Ён доктар хімічных навук, акадэмік Акадэміі навук БССР.

Разам з Алесем Вечарам у Аршанскую філію «Маладняка» ўваходзіў і малады беларускі літаратар Мікола Ганчарык. Лёс яго аказаўся падобны. Мікола Ганчарык, як і Алесь Вечар, рана ступіў на дарогу навукі. Цяпер ён дырэктар Інстытута эксперыментальнай батанікі Акадэміі навук БССР.

Навуковую дзейнасць беларускі акадэмік А. С. Вечар сумяшчае з педагагічнай: чытае лекцыі па біяхіміі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна.

На рахунку ў вучонага многа кніг, публікацый, а як памяць пра сваё захапленне беларускай паэзіяй ён захоўвае кнігу вершаў «Кола дзён».

— Навука стала для мяне мэтай жыцця,— гаворыць Аляксандр Сцяпанавіч,— але і літаратуру я люблю па-ранейшаму, ганаруся тым, што многія мае сябры па «Маладняку», па Аршанскай філіі дасягнулі вялікага поспеху на літаратурнай ніве, засяваючы яе і сёння ўсё новымі зярнятамі, што даюць добрыя ўсходы.

Бывае, што час настройвае Аляксандра Сцяпанавіча Вечара на паэтычны лад, і тады з'яўляюцца новыя вершы. Два з іх Алесь Вечар прапануе ўвазе чытачоў «Маладосці».

**Яўхім САДОЎСКІ.**

**Алесь ВЕЧАР**



# МІНСК

**Пасля вайны прыйшоў у Мінск я ўвосень,**
**Калі туман галіны дрэў лізаў**
**І падала з іголак цёмных сосен**
**Празрыстая і дробная сляза.**

**Быў ціхі ранак,**
**мглівісты і росны,**
**Плылі дымы над горадам маім,**
**А перад горадам разгорніліся сосны...**
**Ці не яго так шкода стала ім!**

**Ішлі гады...**
**Я ў Мінск прыйшоў ізноў**
**У ціхі ранак,**
**сонечны і ясны.**
**Быў марамі маіх юнацкіх сноў**
**Мой родны горад,**
**блізкі і сучасны.**

**Прыйшла ў яго раней мяне вясна.**
**Яна прагнала халады і гора.**
**Зачаравана за сасной сасна**
**Ішлі са мной па тракце ў самы горад.**

**А можа, горад сам ішоў сюды,**
**Ды апынуўся паміж гэтых сосен.**
**Бываюць вёсны...**
**Нават гарады**
**Ідуць тады ў прасторавую просінь.**

**Яны ідуць у стэпы і тайгу,**
**Па берагах азёр і рэк вялізных...**
**І ты, мой Мінск,**
**у вышыню сягнуў,**
**Дарогай сонечнай ідзеш да камунізма.**





*Ц. М. Годневу*

**Над Нараччу рос дуб зялёны,**
**Ды не хадзіў пры дубе тым**
**Ні ўдзень ні ўночы кот вучоны**
**На ланцугу на залатым.**
**Русалка ў голлі не сядзела**
**І не блукаў нідзе лясун —**
***Прыйшла вясна, той дуб адзела***
**У невыказную красу.**
**І расхінае, як далоні,**
**Свой кожны трапятлівы ліст**
**Насустрач сонцу дуб зялёны,**
**Аж сам выцягваецца ўвысь.**
**Імчацца безлічы фатонаў**
**Ад сонца да зямлі ўздагонь,**
**Няма прыпынку ім і стомы,**
**Яны — сам рух, яны — агонь.**
**Іх прамяністы след на лісці**
**Вядзе ўсярэдзіну, і вось —**
**Знаходзяць зерняты ў калысцы,**
**Яны зялёныя наскрозь.**
**Перад жывой таемнай стромай**
**Фатоны супыняюць бег,**
**Бо карагоды электронаў**
**Захопліваюць іх сабе.**
**О, электроны! У мікрасвеце**
**Вам суджан Праметэя лёс,**
**Вандруючы ў зялёным вецці,**
**Вы бераце агонь з нябёс**
**І даяце ўсяму жывому,**
**Каб нарастала сіла ў ім.**
**Хай будзе кропля сілы ў слове**
**Аб зерні**
**хларафілавым!**



# МАЛЮЮЦЬ НАЖНІЦЫ

Праз гэтыя самыя выразанкі я трапіў у аддзяленне міліцыі. А было гэта так. Мінулай зімой давялося мне быць у камандзіроўцы на Гомельшчыне. Выканаўшы рэдакцыйнае заданне, я чакаў свой поезд на невялічкім вакзале. На вуліцы бушавала непагадзь. Я сеў у зале чакання і пачаў чараваць над выразкай.

Ці незвычайнасць майго занятку, ці велізарныя нажніцы, якімі толькі бляху кроіць можна, прывялі да мяне сержанта міліцыі.

— Што вы тут робіце? — запытаў ён, сярдзіта пераводзячы позірк то на мае нажніцы, то на нечыя клункі, што ляжалі побач.

— Чакаю поезд і выразаю,— адказаў я.

— А навошта? — у голасе дзяжурнага пачуліся сталёвыя ноткі.

— Для душы, — прамовіў я.

— Што! — перапытаў сержант. — Для душы!! А дакументы ў вас ёсць!..

У вёсцы Глушкавічы, што ў Лельчыцкім раёне, мая выразанка прыйшлася да спадобы адной бабулі:

— Як на посцілцы ці на ручніку выткана! Слухай, хлопча, хто цябе навучыў такому!

У знак удзячнасці за падараваную выразанку бабуля прынесла мне паўкошыка яблыкаў.

Па прафесіі я фотажурналіст, мая дарожная кайстра біткам набіта фотаапаратурай. Але побач заўсёды нажніцы і каляровая папера. І толькі заляскоча цягнік, кранецца з месца аўтобус або развітальна калыхне крыламі самалёт — мае нажніцы ў рабоце.

Колькі жартаў, кпінаў чуў я за два гады...

— Прабачце, вы, часам, не ў Доме мадэляў працуеце! Бачу, як хораша завітушкі розныя вырабляеце. Мо мне параіце, які ўзор на сукенку выбраць!

А на аўтобуснай станцыі ў Івянцы да мяне прычапіліся вучні 5-х класаў, і я быў «мабілізаваны» на афармленне навагодняга вечара ў мясцовай школе. Амаль дзве гадзіны сыпаў я рознакаляровыя сняжынкі на мяккія дзіцячыя далоні. І толькі калі выйшаў увесь мой запас паперы, я сеў у свой аўтобус.

Гэта лепшае лякарства ад нуднага чакання. Выразанкі нараджаюцца ў сталовай і нават у чарзе за білетамі ў кіно.

Адзін мой сябар, будучы з дэлегацыяй у Польшчы, пабываў у Лавяцкім павеце. І расказваў, што жыхары некалькіх вёсак павета — ад малога да старога — займаюцца такімі выразанкамі з паперы. У летні час усе высыпаюць на вуліцы. Гэтая армія з нажніцамі стварае арыгінальны ансамбль народных умельцаў.

Вось так нечакана я ўступіў у спаборніцтва з хатнімі гаспадынямі Лавяцкага павета. І калі мне давядзецца наведаць Польшчу, то знаёміцца з ёй я пачну з Ловяча.

Як нараджаецца кампазіцыя выразанак!

Усё гэта зроблена амаль без алоўка. Часцей за ўсё імправізую ў час работы. А вынік бывае самы нечаканы. На Гомельшчыне, Брэстчыне я з цікавасцю знаёмлюся з беларускім арнаментам на посцілках, капах, ручніках, бо ўсё гэта тая сцежка, ідучы па якой адкрываеш для сябе новае, незвычайна прыгожае.

Выразанкі, што бачыць чытач на старонках «Маладосці», друкуюцца ўпершыню і зроблены на працягу двух гадоў. Кожная з іх патрабуе карпатлівай працы.

Вячаслаў ДУБІНКА.





Ісак ДАВІДОВІЧ. Вершы.



Міхась САВІЦКІ. Камсамольцы.




**Р. В. БУЛАЦКІ. ЛЕНІНСКАЙ ГВАРДЫІ САЛДАТ.**
**На рускай мове.**
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1970.**

# БАЕЦ РЭВАЛЮЦЫІ

Сярод выдатных дзеячаў Камуністычнай партыі, прадстаўнікоў старой ленінскай гвардыі ганаровае месца займае імя Панцеляймона Мікалаевіча Лепяшынскага, вернага паплечніка, вучня і таварыша У. І. Леніна. Ён быў адным з тых, хто, па словах Луначарскага, стварыў вакол Леніна «штаб бальшавіцкай журналістыкі». Панцеляймон Мікалаевіч быў таленавітым вучоным і партыйным публіцыстам, выдатным педагогам, адным з арганізатараў Гістпарта і МОПРа. Ён увайшоў у гісторыю не толькі як прафесійны рэвалюцыянер, грамадскі дзеяч, але і як выдатны журналіст, пісьменнік, вучоны-гісторык, педагог, мастак-графік.

Пра жыццёвы і рэвалюцыйны шлях нашага земляка (ён нарадзіўся ў 1868 годзе ў вёсцы Студзянец Клімавіцкага павета Магілёўскай губерні) Р. В. Булацкі і расказвае ў сваёй кнізе «Ленінскай гвардыі салдат». Гэта другое выданне кнігі, карэнным чынам перапрацаванай і дапоўненай. (Першае выданне выйшла ў свет у 1963 годзе).

Аўтар, выкарыстоўваючы дакументы партыйных архіваў, успаміны людзей, якія блізка ведалі П. М. Лепяшынскага, узнаўляе карціну жыцця і дзейнасці палымянага рэвалюцыянера. Значная частка кнігі прысвечана рэвалюцыйнай і грамадскай дзейнасці Панцеляймона Мікалаевіча. Падрабязна расказваецца пра тое, як фарміраваўся светапогляд Лепяшынскага, якую ролю адыграў ён у стварэнні партыі бальшавікоў, у развіцці бальшавіцкай журналістыкі, савецкай педагогікі. Нямала старонак адводзіцца высвятленню ролі Леніна ў фарміраванні асобы Лепяшынскага як рэвалюцыянера, марксіста, партыйнага журналіста.

Лепяшынскі ўпершыню сустрэўся з Леніным у канцы 1898 года ў Мінусінскай ссылцы. «Калі я ўпершыню сустрэўся з Ільічом,— успамінае Панцеляймон Мікалаевіч,—усе мае ўяўленні пра яго, як пра «генерала», пра насмешлівага, ганарыстага і жорсткага чалавека рассеяліся ўшчэнт пасля першых жа хвілін знаёмства з ім. Ніхто з нас не вызначаўся такімі натуральна простымі, мілымі, добрымі адносінамі да людзей, якія яго акружалі, такой чуласцю, далікатнасцю і такой павагай да свабоды і да чалавечай годнасці кожнага з нас, яго сяброў і аднадумцаў».

Сустрэча і сувязь з Уладзімірам Ільічом адыграла рашаючую ролю ў жыцці маладога рэвалюцыянера. Даведаўшыся пра І з'езд партыі, які адбыўся ў Мінску, ён разам з іншымі віднымі рэвалюцыянерамі ўступае ў рады РСДРП, удзельнічае ў абмеркаванні ленінскага праекта вядомага «Пратэсту 17-ці», накіраванага супраць эканамістаў. Панцеляймон Мікалаевіч разам з Курнатоўскім шмат дапамог Леніну ў падборы матэрыялаў для такіх яго работ, як «Развіццё капіталізму ў Расіі», «Да пытання аб нашай фабрычна-заводскай статыстыцы», «Заметка да пытання аб тэорыі рынкаў», «Сусветны рынак і сельскагаспадарчы крызіс» і інш.

Жыццё і дзейнасць П. М. Лепяшынскага непарыўна звязаны з партыяй, з яе актыўнай барацьбой за справу працоўных, за перамогу сацыялістычнай рэвалюцыі. Хвалюючыя старонкі кнігі прысвечаны пскоўскаму перыяду жыцця Лепяшынскага, калі ён пасля адбыцця ссылкі па даручэнні Леніна кіраваў групай «Іскры» ў Пскове, вёў падрыхтоўчую работу па скліканні ІІ з'езда РСДРП.

Супрацоўніцтва ў першай агульнарускай марксісцкай газеце, ленінскай «Іскры», было для Лепяшынскага вялікай школай класавай барацьбы. Тут у ім нечакана абудзіўся майстар палітычнай карыкатуры. У. І. Ленін вельмі высока цаніў карыкатуры Лепяшынскага. Пра гэта гаворыць сам Панцеляймон Мікалаевіч, называючы Уладзіміра Ільіча самым прыхільным цаніцелем сваіх карыкатур, які ад душы смяяўся з таго, што яму здавалася дасціпным.

У хуткім часе царскай ахранцы ўдалося высачыць і арыштаваць Панцеляймона Мікалаевіча. Ён быў кінуты ў Петрапаўлаўскую крэпасць, а потым зноў сасланы ў Сібір. Лепяшынскі ўцякае з Сібіры і перабіраецца ў Жэневу. Аўтар кнігі падрабязна знаёміць чытача з рэвалюцыйнай дзейнасцю Лепяшынскага ў эміграцыі. Тут Панцеляймон Мікалаевіч выконвае вялікую работу па згуртаванні бальшавіцкіх сіл, вядзе барацьбу за скліканне ІІІ-га з'езда партыі. У Швейцарыі ён зноў працуе пад кіраўніцтвам Уладзіміра Ільіча; малюе вядомыя палітычныя карыкатуры, піша артыкулы.

Цяжкім было жыццё ў эміграцыі. Каб мець сродкі, Панцеляймон Мікалаевіч вымушаны быў працаваць насільшчыкам на вакзале. Пазней, разам з жонкай Вольгай Барысаўнай, ён адкрывае сталовую для бальшавіцкай групы. У памяшканні сталовай праводзіліся заняткі гурткоў, чыталіся рэфераты і лекцыі. Лепяшынскі быў ініцыятарам стварэння славутай Жэнеўскай партыйнай бібліятэкі.

Жыццё і дзейнасць П. М. Лепяшынскага ў перыяд падрыхтоўкі і здзяйснення Кастрычніцкай рэвалюцыі, у гады грамадзянскай вайны звязаны з Беларуссю. З цікавасцю чытаецца раздзел кнігі, у якім паказана роля Панцеляймона Мікалаевіча ў барацьбе за ўстанаўленне і ўмацаванне Савецкай улады на тэрыторыі Магілёўшчыны.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі П. М. Лепяшынскі ўсе свае сілы, уменне і вопыт аддае справе народнай адукацыі і навукі. Яго педагагічнай і навуковай дзейнасці прысвечаны два раздзелы кнігі. У гэтых раздзелах аўтар падрабязна расказвае пра работу Лепяшынскага ў Народным Камісарыяце асветы, пра тое, як стваралася новая савецкая педагогіка.

Панцеляймон Мікалаевіч быў першым арганізатарам працоўных школ-камун, якія адыгралі значную ролю ў развіцці народнай асветы ў нашай краіне. Будучы членам Калегіі Наркамасветы, Лепяшынскі, атрымаўшы адабрэнне і падтрымку з боку Леніна, едзе ў глухую беларускую вёску Літвінавічы на Магілёўшчыне і стварае там, у сябе на радзіме, першую ў краіне школу-камуну. Адначасова ён вядзе шырокую партыйную работу. Кулакам не падабаўся ўплыў Лепяшынскага і яго школы-камуны на вясковую беднату. «Вось што, Панцюха,—звярнуліся яны да Лепяшынскага.—Каб ты быў папом, рукі б табе цалавалі, маліліся б за цябе. А будзеш камуну ўводзіць, усё роўна заб'ем». Але не такі быў Панцеляймон Мікалаевіч, каб спалохацца пагроз. Стойкі камуніст, верны вучань Леніна, ён разам са сваімі таварышамі здзяйсняў высакародную справу народнай асветы.

Старонкі кнігі, якія расказваюць пра работу Лепяшынскага на вёсцы, раскрываюць адну з выдатных рысаў яго характару—гатоўнасць рабіць самую чарнавую работу, аддаваць ёй усе свае сілы і веды.

У заключным раздзеле кнігі Р. В. Булацкі дае аналіз твораў Лепяшынскага, прысвечаных Леніну. У гэтым раздзеле расказваецца пра Лепяшынскага, як пра публіцыста, майстра вострага палітычнага слова. Вельмі каштоўным для нас з'яўляецца «Жыццёвы шлях Ільіча»—першая навуковая біяграфія У. І. Леніна. Яна дае чытачу магчымасць пераканацца, з якой выключнай цеплынёй, бязмежнай любоўю адносіўся Панцеляймон Мікалаевіч да Леніна.

У другім выданні кнігі Р. Булацкі выкарыстаў новыя матэрыялы з успамінаў дачкі Лепяшынскага—Вольгі Панцеляймонаўны, былых выхаванцаў Літвінавіцкай і Леменскай школ-камун, успаміны сяброў, знаёмых, сямейную перапіску, рэдкія архіўныя матэрыялы. Усё гэта робіць кнігу змястоўнай і цікавай. Аўтар стварыў яркі, жывы вобраз мужнага рэвалюцыянера і палымянага публіцыста, верная ленінца.

Нельга не адзначыць таксама і тое, што беларускія выдаўцы і паліграфісты зрабілі ўсё магчымае для таго, каб кніга выйшла ў добрым мастацкім і паліграфічным афармленні.

**Аляксей РАКОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**




**Уладзімір ПАЎЛАЎ.**
**ГОДЫ НАШЫ — ПТУШКІ.**
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1970.**

# НА ШЛЯХУ ДА СТАЛАСЦІ

У новую кнігу Уладзіміра Паўлава «Годы нашы — птушкі» ўвайшлі дзве аповесці: «Спелыя травы» і «Яжэліха». Аповесць «Спелыя травы», якая напі-

сана пазней, у кнізе ідзе першай, і шкада, што гэта так: калі прачытаеш спачатку рэч моцную, больш сталую, а за ёю слабейшую, узнікае ўражанне аб нейкім спадзе ў творчасці пісьменніка, у той час як на самай справе спаду няма, а ёсць рост, і даволі прыкметны, па шляху ад «Яжэліхі» да «Спелых траў». Таму будзем гаварыць пра аповесці ў той паслядоўнасці, у якой яны напісаны.

Да аднаго з раздзелаў аповесці «Яжэліха» ўзяты ў якасці эпіграфа радкі Пімена Панчанкі:

*«Кожны з нас прыпасае Радзімы кутож,*
*Каб да старасці чэрпаць адтуль успаміны».*

У гэтых радках, мусіць, заключаецца паэтычны канспект аповесці, яе, калі можна так сказаць, звышзадача. Праз вобраз маці, праз вобраз дзяцінства Уладзімір Паўлаў спрабуе данесці да нас вобраз таго кутка сваёй радзімы, адкуль ён будзе бясконца чэрпаць свае ўспаміны.

Дзіцячыя ўспаміны, асабліва ў тых, хто воляю абставін выходзіць з роднага асяроддзя і не можа вярнуцца туды, з цягам часу бяруць над чалавекам усё большую ўладу. Калі ў шчодрым юнацтве і ў маладосці мы такія багатыя, што не вельмі даражым сваім мінулым, цалкам аддаючы перавагу сучаснаму, дык з гадамі, сталеючы, мы ўсё часцей і часцей адчуваем патрэбу азірнуцца вакол сябе, зазірнуць у сябе самога. Мы хочам праверыць сваё цяперашняе сваім мінулым. Ці не таму так многа пісьменнікаў, падыходзячы да сталай пары, звяртаюцца ў творчасці да свайго мінулага, да сваіх вытокаў...

Пераказаць змест «Яжэліхі» няцяжка. У беларускую вёску Залессе прыйшла вайна. Бацька пайшоў ваяваць, а маці засталася адна з чатырма дзецьмі. Ёй было цяжка, але яна выстаяла, не страціўшы ні дзяцей, ні свайго чалавечага і жаночага гонару. Скончылася вайна, вярнуўся бацька, каб пасля ўжо вайны скласці галаву ў паядынку з бандытам. Выраслі ва ўдавы дзеці, разляцеліся па свеце, як птушкі з роднага гнязда, і ўжо Яжэлішынаму сыну родная вёска здаецца той далёкай, мілай радзімай, дзе сумуе па ім старая маці і дзе ён усё часцей бывае ў думках і радзей — сам.

Усе мы родам з дзяцінства. Выраз гэты нездарма стаў крылатым. У кожнага з нас было сваё асаблівае, асветленае святлом гэтай асаблівасці дзяцінства. І нам здаецца, што варта толькі апісаць усё так, як яно было, і тут жа перад чытачом ва ўсёй сваёй красе ўзнікне краіна нашага дзяцінства. Але лёгкасць гэта — уяўная. Яшчэ некалі Віктор Гюго сказаў: «Калі мастацтва і прырода — адно і тое ж, то адно з іх становіцца лішнім». У мастацтве, літаратуры людзі шукаюць хараства. Хараства высокіх думак і моцных пачуццяў. Хараства адкрыцця і сцвярджэння ідэалу. Хараства прасвятлення, калі не можаш стрымаць слёз: столькі разоў ты адчуваў тое ж самае, але не ўмеў сказаць і толькі цяпер зразумеў, як гэта хораша тое, што ты адчуваў і што толькі цяпер усвядоміў.

Ёсць у «Яжэлісе» мясціны, якія так бяруць у палон нашу ўвагу, так кранаюць пачуцці, што не прыходзіцца сумнявацца ў таленце Уладзіміра Паўлава—празаіка. Дарэчы Паўлаву-празаіку вельмі часта памагае Паўлаў-паэт, і тады нараджаецца вобраз, які ўражвае і запамінаецца надоўга. Герой аповесці «Яжэліха» сямігадовы хлопчык прачынаецца сярод ночы ад стрэлаў за акном і не можа зразумець, бачыў ён гэта ў сне ці проста яму ўспомнілася, як «тата купіў нізанку абаранкаў і, калі падаваў мне іх на печ, матуз парваўся, і абаранкі пасыпаліся на падлогу. Коцяцца, падскокваюць і ніяк не могуць упасці». Або вось як сказана пра патрывожаную начною стральбой маці: яна «...зноў укладвае нас, акрывае зверху, лажыцца сама, працягвае руку да самага краю, да мяне, нібы птушка крылом накрывае птушанят. Упэўніваецца, што з ёю ўсе». Альбо гэтае асцярожнае, як быццам нават баязлівае, спачувальнае падрыхтоўванне чытача да смерці бацькі, калі ў душы надзея змагаецца з немінучасцю і калі трывога гэтай барацьбы перадаецца нам сілаю патрэбнага, адзінага слова. Гэта — раздзел пра стары пагост, пра тое, як маці расказвае пра расцвіўшую не ў пару вішню: «...зімой з яе кветкі зрывала». І канец гэтага раздзела: «На вуліцы весела смяяліся дзеці. У небе, падсвечаныя знізу, імкліва насіліся ластаўкі. На захадзе сонца накалолася на вострыя стрэмкі лесу і выцякала на зямлю зыркай чырванню. Аж балела ў вачах.

Хораша глядзяць і ніяк не наглядзецца на апошняе сонца».

Уладзімір Паўлаў піша такімі фарбамі: «Мінула толькі зіма, нібы баючыся, адыходзіла няяркая вясна,— на парозе стаяла лета». Ён напісаў свой плач Яраслаўны-Яжэліхі, які нельга чытаць без хвалявання. Характарыстыку чалавека ён цудоўна ствараае адной толькі фразай: «Насоўвае на белую, як снег, галаву, шапку-аблавушку... І здаецца, што ў хаце адразу стала цямней». Усё гэта дае нам права не даравацьяму бытапісальніцтва і тых стандартных выяўленчых сродкаў, якімі ён часам карыстаецца.



Відаць, адчуваючы, што прастата апавядання ў многіх мясцінах аповесці становіцца прымітыўнай, ён імкнецца ўскладніць падзеі, паглыбіць іх падтэкстам, але гэтае ўскладненне і гэты падтэкст, узятыя на «жывую нітку», тут жа даюць адчуць сваю ненатуральнасць. Старая Тэкля прыходзіць да Яжэліхі гаварыць пра свае крыўды на савецкую ўладу і пра рэквізаванага ў гады калектывізацыі жарабка якраз тады, калі жарабок спатрэбіўся партызанам. Дзед Васіль, якога ў свой час раскулачыў Яжэлішын чалавек і які тым не менш застаецца добрым, справядлівым і не помніць зла, а таксама Ваня-паліцай, які невядома чаму стаў здраднікам і выдаў сваю настаўніцу-ардэнаноску — усё гэта не такія з'явы, пра якія можна гаварыць між іншым, мімаходам, спадзеючыся на здагадлівага чытача: яны патрабуюць дэталёвага псіхалагічнага аналізу. А яго якраз і нестае аповесці «Яжэліха».

Сур'ёзнай заяўкай паэта на сур'ёзную работу ў прозе з'яўляецца аповесць «Спелыя травы». Першыя ж старонкі яе сведчаць пра той асаблівы зрок і слых, якія вылучаюць мастака, здольнага маляваць словам. «На досвітку, калі шэрая смуга прыпала да акон і ў лабку, пад дахам, заварушыліся ў гнёздах ластаўкі, Уляна ўстала падаіць і выгнаць на ранкі карову. Свежая золкасць, белы табун туману за агародам на поплаве, вільготная, у цёплым дыханні пыса рагулі — усё было звыклае, як дзень і два, як год і дзесяць гадоў назад...

...Выцягнула з калодзежа вядро вады, паставіла на калодку, а пераліць у даёнку забылася. Стаяла, паклаўшы руку на калаўрот, пазірала на вуліцу, а бачыць нічога не бачыла. Памяць разматвалася ўсё некуды назад, углыбіню, нібы ланцуг, што сарваўся з калаўрота і рынуўся паўз мокрыя дубовыя абрубы да чорнага люстэрка вады, да самага ўсплёску».

З поўнай упэўненасцю, што гэта прынясе чытачу задавальненне, можна было б прывесці яшчэ многія радкі аповесці, адзначаныя несумненным талентам — ад перапёлак, якія крычаць свае «жаць-жаць» над самотным у вечнай непрытульнасці полем, да таго разумення жыцця, якое ўзрастае ў нас з кожнай новай маршчынкай на твары. Ва ўсім гэтым так адчуваецца цяга Уладзіміра Паўлава-празаіка да вобраза, які валодае сілай асацыяцыі! І тут зноў-такі — добры ўплыў яго паэтычнай школы.

Кампазіцыйна аповесць «Спелыя травы» будуецца як успамін. Успамін сённяшняй Уляны, жанчыны сярэдніх гадоў, якая засталася пасля вайны адзінокай, пра тое далёкае і не вельмі далёкае мінулае, пра тыя дарогі і сцяжынкі, якімі яна ішла да свайго сённяшняга дня. Да дня, які паўтарыў яе юнацтва ў юнацтве дзяўчынак-блізнят, дачок яе сяброўкі, што памерла ў вайну. Дачок чалавека, які ў маладосці любіў яе, але якога яна, Уляна, не пакахала, таму што ён здаваўся ёй зусім не падобным на таго, каго яна чакала і бачыла ў сваіх дзявочых снах. А цяпер, калі прайшло столькі гадоў і калі яны абодва засталіся ў жыцці адзінокімі, яна задумалася пра ўсё, што пройдзена, і пра тое, што яшчэ трэба прайсці ў жыцці, у якім, як ні кажы, а вечар яшчэ не настаў.

Такая кампазіцыя дае аўтару свае свабоды, але мае аднак і свае абмежаванні. Няўважлівасць да іх адмоўна адбіваецца на той прастаце і натуральнасці, да якіх так адчувальна імкнецца Уладзімір Паўлаў. Нажаль, ён часам пагарджае адной з асноўных умоў выбранага жанру — весці апавяданне толькі ад імя сведкі падзей — у дадзеным выпадку — Уляны. Нібы адчуваючы нейкі недавер да жыццёвага матэрыялу, аўтар спрабуе ўзбуйніць, паглыбіць падзеі, характары, думкі. І тады яны, «вынятыя» з суб'ектыўнага свету гераіні, чыімі вачамі мы пачалі глядзець на свет, трацяць сваю жыццёвасць, праўдзівасць, натуральнасць. Уляна была натуральная, і яе вобраз эстэтычна пераконваў нас, калі яна дзяліла сваю дзявочую сімпатыю паміж Пашкам і настаўнікам Раманам Раманавічам, пакахала юнага Міколу, змяшаўшы мацярынскае сваё пачуццё з жаночым. Яна выглядае некалькі фальшывай, прыдуманай «дзеля сюжэта», калі так доўга не рашаецца ісці за Фёдара, нібы толькі чакаючы таго, каб «травы паспелі», дайшлі, як кажуць, да кандыцыі. Прычыны, на якія яна спасылаецца: «... на чужую хату, на чужых дзяцей...» — можа і сур'ёзныя самі па сабе, але яны несур'ёзныя для той Уляны, якую мы ўжо ведаем і паспелі калі не палюбіць, то адчуць вялікую павагу да прастаты, сілы і шчодрасці яе сардэчных пачуццяў.

Няўважлівасць да логікі развіцця характару выяўляецца і ў тым, што прымітыўны дармаед Ахрэм пачынае думаць філасофскімі катэгорыямі, даступнымі толькі душы глыбокай і розуму незвычайнаму, Раман Раманавіч становіцца носьбітам злавеснай місіі помсты зусім у духу Дастаеўскага. Уся гэтая псіхалагічная ўскладнёнасць выглядае штучнай, як і сюжэт пра шпіёна-млынара, які ўсё жыццё дрэнна гаварыў па-беларуску, каб пад канец, будучы злоўленым, выдаць традыцыйнае «русіш швайн» ва ўсёй яго плакатнай нескладанасці. Аўтару трэба больш ве-

рыць сабе, свайму пачуццю, свайму таленту і не ісці следам за пэўнай часткай чытачоў, якія па-свойму ўяўляюць займальнасць літаратуры.

Нам няцяжка зразумець, што і вобраз культасветніка Пашкі з яго «любімым горадам», які «можа спаць спакойна», і яго юнацкім аптымізмам, і «земляны», мужыцкі скепсіс Нічыпара, які палемізуе з ім, і спробы Рамана Раманавіча адкупіцца ад нібыта хворага свайго сумлення багатымі падарункамі жонцы загубленага ім чалавека (дарэчы, нам не зусім зразумела, чаму яму спатрэбілася загубіць іменна калгаснага пісьманосца), і гісторыя Вані-паліцая з «Яжэліхі» — усё гэта сведчыць пра настойлівае жаданне маладога пісьменніка гаварыць пра жыццё ва ўсёй яго складанасці і супярэчлівасці, ва ўсёй разнастайнасці яго дабра і зла, што ёсць у жывых людзях — такіх розных у розных абставінах. Так, ён не хоча быць падобным на тую сярдзітую цётку, для якой Міця Карамазаў усяго толькі п'яніца, бабнік, невук і хам. Ён хоча дайсці да карэнняў з'явы—сацыяльных, палітычных, маральных. Але, захапіўшыся гэтым добрым намерам, ён забывае часам аб праўдзе характару і тады ўпадае ў другую крайнасць. Бабнік і помслівая нікчэмнасць Раман Раманавіч «упрыгожваецца» намёкамі на нейкую складанасць ці ледзь не трагізм свайго існавання. Як вядома, у жыцці часам сустракаюцца рэчы, перад якімі блякне самы смелы мастацкі вымысел. Але ўся справа ў тым, што любы ўзяты з жыцця факт, перш чым стаць з'явою эстэтычнай, павінен прайсці праз гарніла такое гарачае і такое суровае, што мы ўжо самі перанясем яго з газетнага аддзела хронікі ў галіну мастацтва.

Я так падрабязна спынілася на недахопах кнігі не таму, што яны ў ёй пераважаюць, а таму што гэтая кніга ўяўляецца мне несумненным доказам творчага пасталення маладога пісьменніка і дае ўсе падставы спадзявацца, што ўперадзе ў яго вялікая і сур'ёзная работа, для якой патрабавальнасць паслужыць толькі на карысць.

Ірына КЛІМАШЭЎСКАЯ.




Уладзімір АЛЯХНОВІЧ. ПАЛЕСКІЯ НАВЕЛЫ. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1970.

# СВАЁ І ЧУЖОЕ

Цяжка ды, відаць, і рана пакуль што гаварыць пра далейшы творчы лёс маладога аўтара, які пачынаў з вершаў, а пасля паспрабаваў свае сілы ў прозе. Ясна адно: пошукі аўтара не скончыліся, і ён пакуль што знаходзіцца на раздарожжы. Сведчанне гэтага — перадгісторыя «Палескіх навел».

У 1968 годзе выдавецтва «Беларусь» выдала першую кніжку маладога аўтара, яго паэтычны зборнік «Море мечты» — на рускай мове. Зборнік навел напісан па-беларуску. Адбыліся, такім чынам, два пераключэнні: з рускай мовы на беларускую і з паэзіі на прозу.

Адна з навел, змешчаных у кнізе, называецца «Бусел і Жэнька», у якой расказваецца, як двое сяброў з вышуковай экспедыцыі выратавалі параненага бусла. Несумненную вартасць гэтага твора складае жыццёвасць і непасрэднасць аўтарскага апавядання: чытач разам з аўтарам адчувае сябе тварцом—яму прыходзіцца хвалявацца, фантазіраваць, дадумваць. Нарэшце, не можа не крануць і нейкая першародная чысціня аўтарскага настрою, якім прасякнута навела. У навеле «Мёртвая пятля» аўтарскі голас без усякай знешняй прыўзнятасці альбо надрыўнасці поўніцца ўнутраным, ледзь стрыманым чалавечым хваляваннем. І гэтаму голасу нельга не паверыць.

Тапаля пакуль што жывая. Яна яшчэ сее на зямлю свае пушынкі, у кожнай з якіх хаваюцца каліўцы насення. Цяплом дыхае яе шурпатая кара.

Але пятля з іржавых калючак дроту ўпілася ў яе цела, разрэзала кару. Вайна зрабіла нявольнікамі калючага дроту не толькі людзей, але і дрэвы.

Ёсць у кнізе яшчэ некалькі навел, чытаючы якія, не застаешся абыякавым. Цікава расказвае Уладзімір Аляхновіч пра незайздросны лёс Ваські Жэбрака («Тры драбкі цукру»), удала знойдзеная аўтарам мастацкая дэталь прымушае яшчэ і яшчэ раз думаць пра смерць Сымона Крыловіча («Параненыя дрэвы»). У кожным з гэтых невялічкіх твораў ёсць самае галоўнае, без чаго цяжка сабе ўявіць наогул навелу: яркасць і адметнасць мастацкай дэталі, незвычайная, ледзь не інтрыгуючая падзея з вельмі нечаканай канцоўкай і, нарэшце, прастор для роздуму і эмоцый. Аднак такія навелы ў кнізе не ўсе.

Адзінокі зубр нястомна блукае па пушчы. Цяжка яму аднаму. Вось ён і шукае сабе блізкіх. Аднойчы зубр падышоў да статку кароў, што мірна пасвіліся на лузе...

У навеле «Вандроўны зубр» асноўная ўвага чытача нацэлена на самога зубра. Ён «суровы, маўклівы, касмылі поўсці звісалі да самай зямлі, з ноздраў вырываліся фантаны пары». Што ж, зубр як зубр. Такі ж, якога мы і прывыклі маляваць у сваім уяўленні. Ішоў зубр «павольным, упэўненым крокам», «сухія галінкі пад ягонымі нагамі патрэсквалі, як запалкі».

Каб аўтар расказаў пра зубра пасвойму, хоць крышку ярчэй, а не так, як пра гэта ўжо гаварылася, нас бы зацікавіла яго апавяданне.

«Галінкі патрэсквалі, як запалкі...» — піша аўтар, і нейк нават крыўдна, што аўтар не пагрэбаваў такім штампам.

Юрка ўпершыню ўбачыў зубра. Ну і зразумела, што «ад здзіўлення Юрка раскрыў рот, і ў грудзях яго нешта халадзела». Юрка, спалохаўшыся, бяжыць будзіць дзядзьку Васіля. І—зноў штамп: Юрка «спатыкаўся аб купіны, некалькі разоў падаў, падымаўся і зноў бег»...

А дзядзька Васіль хутчэй нагадвае «заштампаванага» артыста, чым пастуха. Убачыўшы спалоханага Юрку, ён «кінуў на зямлю акурак, старанна расціснуў яго ботам, сеў на шырокі пень, паклаў на Юркава плячо руку». Пасля гэтага ў чытача ствараецца ўражанне, што дзядзька не проста гаворыць, а дэкламуе, што словы ў яго не нараджаюцца адпаведна перажыванням, а даўно загатаваны на падобны выпадак.

Сюжэт навелы «Вандроўны зубр» цікавы, але ён, відаць, не выспеў як след. Адсюль і цьмяныя, не першай свежасці фарбы, якімі пісьменнік карыстаецца.

Часам залішне захапляецца Аляхновіч сентэнцыямі: гэта таксама не ідзе на карысць яго творам.

«Мне стала дзіўна, што недзе людзі бавяць час у рэстаранах, п'юць гарэлку і смокчуць папяросы.

От каб былі тут нейкія нябачныя правады, што данеслі б да іх мой голас, я б запрасіў іх: «Ідзіце сюды, у лес, у поле, людзі. Да сонца і вясенняга ветру. Піце яго, надыхайцеся ім уволю!» («Сакавіцкі вецер»).

Звычайна так агітуюць плакаты па санасвеце.

Невыразнасць думкі ўласціва многім навелам Аляхновіча. У «Прыпяці» аўтар пералічыў прытокі палескай ракі, параўнаў іх са сцяблінкамі ліловай галінкі бэзу, пералічыў гарады і вёскі, што гняздзяцца на сцяблінках рэк, зрабіў павярхоўны экскурс у гісторыю. А дзеля чаго? Калі ён хацеў сказаць пра сваю любоў да Прыпяці, дык хіба ж можна прызнавацца ў любові без кропелькі ўласнай усхваляванасці?

А як, якою мовай пісьменнік апавядае пра сваіх герояў?

«Бываюць нягоды ў людзей і ў наш час. Яны будуць заўсёды. Але агульны тон размовы Уладзіміра Рыгоравіча аптымістычны: з вялікім захапленнем ён расказваў пра новыя магутныя трактары, што працуюць цяпер на палях, пра маладых, тэхнічна адукаваных трактарыстаў. І пра тое, што жыццё на сяле становіцца лепшым».

Што скажаш пра гэта? Інфармацыя, і то не адменнай якасці.

Хоць побач чытаеш вынашанае, народжанае ў самых глыбінях душы, як у навеле «На станцыі «Лясная». Тут ужо не ўпікнеш аўтара ў недакладнасці бачання: «Увесь луг закіданы белымі вянкамі, сплеценымі з палявых рамонкаў. Напэўна, дзеці, гуляючы на лузе, плялі тут вянкі і пакінулі іх... Добра прыгледзеўшыся, я заўважыў, што вянкі ледзь-ледзь шавеляцца. І зразумеў: гэта былі матылькі!»

Цудоўна напісана! Адчуваеш, што ўбачанае ўсхвалявала. А канцоўка — сапраўды навелістычная: «Мой сусед па купэ, нарыхтоўшчык раённай канторы, на імгненне адарваўшы позірк ад газеты, хмура сказаў:

— Гракоў на іх няма!»

Як бачым, у аўтара ёсць назіральнасць, ёсць вострае пісьменніцкае вока, але яму трэба вучыцца пра ўбачанае і перадуманае апавядаць па-свойму, вучыцца пісьменніцкаму майстэрству.

Мікола ДЗЯШКЕВІЧ.



● Алена ТРУКШЫНА

# ПІСЬМЫ З РУКЗАКА

Калі мы збіраліся ў гэтую вандроўку, знаёмыя верылі і не верылі, уздыхалі і зайздросцілі нам. Так што—ці наступаць—бегчы, ці адступаць—бегчы. Вырашылі наступаць. Інакш сябры палічылі б нас за балбатуноў.

Перад ад'ездам людзі, «сапсаваныя» цывілізацыяй, стараліся сапсаваць нам настрой наіўнымі пытаннямі: «А што вы будзеце есці? А што, калі не будзе там гасцініц?» і г. д. Але мы не зважалі, бо адчулі сябе нашчадкамі Пржэвальскага, і ўяўныя зарасnікі вярблюджых калючак былі для нас наўздзіў жаданымі.

Мы не ўзялі дзённіка. Па-першае, таму, што падленьваліся, па-другое, хтосьці з нас своечасова прыгадаў выказванні карыфееў аб тым, што ў дзённіку перш за ўсё ілжэш і падхарошваеш самога сябе.

У пісьмах да сяброў паддобрыцца сябе нельга (яны нас ведаюць цудоўна), а падаваць пра сябе вестку трэба было, а то маглі і тваё рабочае месца аб'явіць вакантным. Прытым, з кім падзелішся ўражаннямі? Абое бачым адно і тое ж. Вось і пісалі. Праўда, не ўсё, што вы прачытаеце. Некаторыя пісьмы мы напісалі пазней, бо падзяляем старую думку аб тым, што людзі ахвотна чытаюць... чужыя пісьмы.

## ЛІСТ ПЕРШЫ

Арыф-Фархад Мамедаў—маленькі, шустры, чарнавусы і чарнавокі. На галаве—кепка, на шыі—стракатае кашнэ. Зразумела, мастакі арыгінальна апранаюцца. А Арыф—мастак, студэнт-выпускнік мастацкага вучылішча аддзялення манументальнага жывапісу. Спачатку мы не звярталі ўвагу на яго прафесію, мастак дык мастак. Але Арыф так шчыра запрашаў нас у кафэ, афармленне якіх так ці інакш было звязана з любімым відам мастацтва, некалькі разоў выводзіў нас на адной і той жа станцыі метро, каб палюбавацца тварэннямі мастакоў-манументалістаў, што ўрэшце мы праявілі мінімальную долю цікаўнасці і дазналіся, што спецыяльнасць Арыфа—своеасаблівая перамога над старадаўнімі законамі. Мусульманам каран забараняе маляваць людзей, тым больш голых. Тыя, хто жыве ў Савецкім Азербайджане, даўно забыліся пра гэту боскую «дырэктыву», а сям'я Арыфа толькі дзесяць гадоў як вярнулася з Ірана. Бацька, інвалід, без пары пастарэлы, усё жыццё працаваў на нафтавых промыслах і толькі тут, у Баку, атрымаў кватэру з трох пакояў і пенсію. Калі Арыф наважыў стаць мастаком, бацька, мусіць, не вельмі пратэставаў. І цяпер уся кватэра Мамедавых завалена палотнамі, накідамі, нейкімі скульптурнымі «рукамі» і «нагамі».

Мы з ім пазнаёміліся не зусім звычайна. Пад'язджалі да горада ранкам. Поезд ішоў па ўзбярэжжы. Справа—горы, на іх пасвяцца авечкі, вослікі. Горы пакатыя. Потым выглядваюць самыя стромыя, у тумане. З вагона бачна мора. Па ўсім беразе—цэментныя заводы, рыбакапцільні; смоляцца лодкі. Бераг роўны, жоўты пясок. Баку пачынаецца заводамі, складамі. А мы ўяўлялі яго па Бейбутаву...

Наш поезд вынырнуў перад маленькім ва ўсходнім стылі вакзалам. На дрэвах набрынялі пупышкі, навокал мора, над галавою сінеча. І людзі па-вясноваму бадзёрыя, вясёлыя. На вуліцах машын амаль няма. Пешаходы крочаць проста пасярэдзіне вуліцы.

Мы ішлі, не пытаючыся дарогі. Нібы са старымі знаёмымі сустрэліся з оперным тэатрам імя Магамаева, дзеда цяперашняга спевака, з музеем 26-ці бакінскіх камісараў... Выйшлі да мора. На плошчы, сярод зеляніны, палац з усходнімі калонамі, з тонкімі ажурнымі аркадамі. Гэта—Дом урада. Не мы адны, многія прыезджыя хадзілі вакол будынка: ён усім падабаўся. А мора сіняе, чыстае. І нафта тут пластам, як нам думалася, не плавае. Хаця амаль на газонах маленькія насосікі, без чалавека, аўтаматычна смокчуць нафту з зямлі, дзень і ноч чмокаюць...

Нарэшце мы завіталі ў кафэ. «Дзіўна,—кажу я Альку,—чаму на кожным стале ў талерачках яйкі фарбаваныя. Здаецца, мы ў мусульманскіх краях, які ж тут вялікдзень? Ды яшчэ ячмень прарос і, відаць, не для бражкі, бо травінкі ўжо зялёныя павырасталі».

Зразумела, што пытанне было рытарычнае, Алька ведаў роўна столькі ж, колькі я. І раптам з суседняга стала чуем: «А ў нас гэты тыдзень—свята вясны».

Выйшлі з кафэ сябрамі. Арыф адразу ж запрасіў да сябе. Як усё адно ведаў, што месцаў у гасцініцах не густа. Пааднекваўшыся, мы, вядома, згадзіліся, і аўтобус, папыхваючы і крэкчучы, павёз нас на гару, у пасёлак Мусамбекава. Адсюль відзён увесь Баку. Расказваючы пра сям'ю Арыфа, можна дадаць, што маці яго вельмі шкадавала, што не можа гаварыць па-руску. Яна старая, але валасы падфарбаваныя іранскай хной, на руках—манікюр.

Увечары мы былі ў гасцях у замужняй сястры Арыфа. Сеіда маладая і прыгожая. Муж яе—рабочы-нафтавік. Працаваў на Нафтавых Камянях. Ведаеце, я мусіць упершыню ў жыцці бачыла тыповага рабочага з кіно. Ёсць такое паняцце «бакінскі рабочы». Вось які ён! Упэўненасць у сваіх сілах. Рабочы—гаспадар, бацька дзяцей. Ён на гэтую нафту глядзіць не толькі як на сродак жыцця, а маштабна, як дзяржаўны чалавек.

Нас частуюць салодкімі піражкамі з арэхамі, пячэннем з семкамі і цукеркамі ўласнага вырабу. У Сеіды цудоўныя дзеці, яна вельмі задаволена, што старэйшая дачушка «светленькая». А гэта азначае, што валасы цёмна-каштанавыя, наогул косы ў яе такія, як і ў мяне, а я лічуся брунеткай.

Гэта было ўчора. А сёння мы з ранку блукаем па горадзе. Спачатку ідзем да помніка Кіраву. Гэта ў парку, на гары. Бачны ўвесь горад, белая падкова вакол бухты. Мора ў смузе, порт, параходы, у моры вышкі... На п'едэстале фатаграфуюцца турысты. Мы таксама. Унізе—пакатыя дахі. Стары Баку. Ён адгароджаны зубчатай сцяной, а ўнутры гліняныя домікі, басейны, лазні. Усё, бы ў сярэдневякоўі. Тут музей. Мы падняліся на Дзявочую вежу. «Дзявочая», бо, згодна легенды, якую мы пачулі, некалькі вякоў назад жыў ні то хан, ні то шах, ні то султан, адным словам «великий мира сего». І была ў яго прыгажуня-дачка. І рашыў ён яе выдаць замуж за нялюбага, яна ж кахала добрага маладца. І сказала тады грознаму бацьку—зробіш вежу—выйду замуж па тваім жаданні. Бацьку ж нічога не каштавала пабудаваць 30-метровую «хатку». Дачка забралася на яе і кінулася ўніз. Легенда—як сотні іншых, ды і сітуацыя—таксама. Але народу да спадобы такі выпадак, таму і перадаецца з пакалення ў пакаленне.

Мы развітваемся з Баку. Пойдзем на пароме ў Азію!

Пішыце на Бухару.

## ЛІСТ ДРУГІ

Наша блакітная мара здзяйсняецца. Учора ступілі на азіяцкі мацярык. Не скажу, каб гэта было надта ўрачыста. Цемень. Ноч. Краявід, нібы з чорнага сагана: унізе мора, па баках горы, і толькі над галавой праклёўваюцца зоркі. Агнёў так мала, што прыходзіць думка: а ці не застаўся Краснаводск на ўзроўні 1869 года, калі яго заснавалі?

Але гэты гістарычны экскурс перапыніўся няласкавым крыкам прыветных гараджан:

— Эй, вы! У горад едзеце, ці што? Аўтобус жа апошні!..

Мы ўскочылі ў аўтобус, і ўжо там сонныя пасажыры, ашаломленыя і ўражаныя нашай някемлівасцю, растлумачылі, што прыстань для парома—яшчэ не горад, а Краснаводск за гарою.

Як там у Мінску надвор'е? Хутаецеся ў футра? А мы ўчора шкадавалі аб недасканаласці тэлевізійнай тэхнікі. Вы б памёрлі ад зайздрасці, калі б убачылі, як мы загаралі на пароме. Але алах! Вы ж не ведаеце, што такое паром! Тады пачакайце з Краснаводскам, вернемся ў Баку.

У кампаніі Арыфа-Фархада мы падышлі да прыстані і ўбачылі паром! Вялізарны параходзішча адчыніў задні (іменна задні) борт і глытаў таварныя вагоны, быццам арэхі. Яны, запламбіраваныя і апячатаныя, падкатваліся па рэйках і зніклі ў цёмным чэраве парахода. А паром, вялізны бе-

ласнежны карабель «Гамід Султанаў», акрамя ўсяго гэтага, цягнуў на сабе салоны, рэстараны, бары, музычныя пакоі з раялямі, басейны, душавыя і яшчэ мноства вялікіх і малых выгод, ды яшчэ пасажыраў. Больш за ўсё нам спадабалася верхняя палуба.

Мора, утыканае нафтавымі вышкамі, было блакітнае і чыстае, шчыравала сонца, рэдкія пасажыры засталіся ў салонах, а мы вымылі і развесілі на сонцы насоўкі, захапілі самыя сонечныя лаўкі і падставілі сонцу свае вяснушкі і маршчынкі.

Мы і не здагадваліся, што той настрой, які захапіў нас, называецца лянотай падзішахаў. Але гэта быў яшчэ пачатак, і таму мы знайшлі сілы для агляду карабля.

Уявіце наша хваляванне перад дзвярыма са строгай таблічкай «Намеснік камандзіра карабля, старшы памочнік капітана». Уяўляўся нехта вусаты з ахрыплым голасам—гэткі марскі воўк. А гэта малады дваццаціпяцігадовы азербайджанец з прыгожымі чорнымі вачыма—Мамедаў. Для яго таксама было адкрыццём, што цікаўныя пасажыры, якія ўвесь дзень тырчэлі на верхняй палубе—журналісткі. Але абодва бакі ў час захавалі здзіўленне, і мы атрымалі такія звесткі:

а) паром наш, айчынны, зроблены ў Сормаве;

б) самы вялікі ў свеце, усялякія дацкія і англійскія—кураняты ў параўнанні з ім;

в) працуе тут выключна моладзь розных нацыянальнасцяў;

г) парому не вельмі страшныя штормы (самая прыемная звестка!);

д) паром мае вялікае гаспадарчае значэнне (колькі б абышлася разгрузка, пагрузка на звычайныя караблі!).

Мы аглядалі паром, мералі глыбіню, слухалі назвы марскіх прыбораў і рабілі выгляд, што тое-сёе зразумелі. Не ведаю, ці паверылі маракі ў нашу кемлівасць. Несумненна адно, аўтарытэт наш вырас на камбузе, таму што за вячэрай, калі мы вывучалі меню, *кок Рашыд прашаптаў па-змоўніцку:* «А шашлык хочіш?» Шашлык быў цудоўны, відавочна, Рашыд нам спрэзентаваў капітанскі.

А цяпер Краснаводск. Убачылі мы яго раніцой. Тэмпература сёння—15 градусаў, а ўражанне такое, быццам не менш як трыццаць. Шэрыя, цёплыя на выгляд сцены дамоў, здаецца, аж плавяцца ад гарачыні, дрэвы яшчэ без лістоў, а, здаецца, яны проста падсмажыліся і курчацца без вады: паветра чыстае, а так і чакаеш гарачага, пустыннага пылу...

Дамы двухпавярховыя, з шэрага туфу ці шлаку. Пахне рыбай: воблу прадаюць ва ўсіх ларках: вялікі порт, караблі розныя, многа танкераў-вадавозаў. Ваду прывозяць з Баку. Над горадам вісяць дзве бура-бэзавыя гары, круглыя, як шатры—гэта хрыбет Кувадаг.

Людзі самыя розныя, многа каўказцаў, рускія і туркмены. Асабліва ўразілі нас туркменкі, прыгожыя, станістыя, з чорнымі косамі. А хусткі! Вялікія, квяцістыя, і завязваюцца асабліва, каб ззаду застаўся шлейф. Сукенкі больш чырвоныя, але ёсць сінія, зялёныя, з вышыўкай, доўгія. І акуратныя вышытыя шаравары. Што значаць еўрапейскія «міні» ў параўнанні з гэтай прыгажосцю!

На вакзале сустрэлі старога ў чалме, ён маліўся ні на кога не зважаючы, ды і на яго, акрамя нас, ніхто не зважаў.

Ну, што ж, хопіць. Купілі рыбы, пасядзелі на прыстані. Укінем пісьмо ў паштовую скрынку—і гайда. Каспій—наш максімум.

Выходзім у пустыню.

## ЛІСТ ТРЭЦІ

Аказваецца, я баязліўка! Ідзем уздоўж *Каспія*, метраў дзвесце ад мора, і Алька ўспамінае наказы сяброў пакаштаваць тутэйшую ваду. Мяняем курс на паўрумба—і да мора. Пад нагамі дзіўны пясок, ён правальваецца і калышацца, калі ступаеш. Мне прыходзіць на думку, што гэта зыбучыя пяскі, я забіраюся на купіну і ні з месца. Ваду Каспія каштавала з кубка, што прынёс мне храбры спадарожнік.

Пустыня. Сонца. Рыжыя, бурыя адценні, узгоркі, далей—горы. Шэрыя кусцікі калючак (Алька, як біёлаг, разважае над рэцэптам салаты). Статак вярблюдаў. Без пастухоў. Мы падыходзім да вярблюдаў, але не зусім блізка—баімся. Як расказвалі нам пазней, для гэтага былі падставы—вярблюды часам бываюць злосныя.

Нас уразілі фарбы. І цішыня. Ціха-ціха... Незвычайна пасля горада. У вушшу звон. Неба сіняе. Над пяскамі—смуга.

Спадарожных машын не відаць. Мы і не ведалі, што на гэтай 300-кіламетровай дарозе спадарожнікі сустракаюцца рэдка. Але была раніца, спяшацца не было куды. А чым больш пройдзена, тым больш убачана, і таму мы нават не спрабавалі спыніць кавалькаду «Волгаў», якая паказалася нечакана. Ды, уласна, і не асмеліліся, вельмі незвычайнае было шэсце. На ветрыку развяваліся рознакаляровыя даўжэзныя стужкі, прычэпленыя да ветравога шкла, палымнелі вялікія квятастыя хусткі, на капотах ззялі стракатыя дываны. Але пятнаццаць «Волгаў», а ззаду яшчэ і грузавік, біткам наладаваны вясёлымі седакамі. Мы сустрэлі туркменскае вяселле!..

...Ужо крыху і змарыліся, як нас дагнаў адкрыты грузавік. Спыніўся сам: вельмі незвычайны быў наш выгляд... Потым мы ўпэўніліся, што іншых пешаходаў на гэтай дарозе не было.

Нас адразу «абмундзіравалі», выдалі па бушлаце—усё ж адкрытая машына. Гаспадарамі не аказаліся геадэзісты. Яны закончылі работы каля затокі Кара-Багаз-гол і вярталіся дамоў у Небіт-Даг. Некалькі дзён хлопцы працавалі без спачыну, ірваліся хутчэй дабрацца дадому, былі вельмі змораныя, але наша паяўленне некалькі ажывіла абстаноўку.

Мы ляжалі на кашме сярод рэек, планак, рукзакоў, падскоквалі на выбоінах і гаварылі. Двое хлопцаў зусім маладыя, толькі ўвосень ім на вайсковую службу. Эсед Эседаў і Міша Краўцоў. Эсед—лезгін, але чамусьці бландзін і ўвесь у вяснушках. Міша—чорны, насаты і больш падобны на каўказца, нават акцэнт ёсць, а сам рускі. Два Сашы, Саша—шафёр і Саша—інжынер, кіраўнік. Жонка інжынера таксама працавала ў іх групе, але паехала раней поездам.

Хлопцы адразу ж развярнулі машыну і не паленаваліся зрабіць крук кіламетраў на дваццаць, каб паказаць нам стары мусульманскі могільнік. Могілкі—самыя звычайныя, толькі замест агароджы—каменныя муры, ды замест крыжоў—паўмесяцы. І дрэў няма, пустка... І хацінка—ні то маўзалей, ні то каплічка, а наогул архітэктурай нагадвае юрту. Мы зайшлі і быццам трапілі ў падзямелле Аладзіна. Куфры, скрыначкі, буфеты, камоды... А ў іх за шклянымі дзверцамі ў мяшэчках, баначках, на сподачках не груды залатых манет, а рыс, фасоля, гарох, цукар, чайнічкі, піялы, талерачкі...

Наўрад ці хто цяпер верыць, што на тым свеце спатрэбіцца ўсё гэтае начынне, але звычай ёсць звычай, і яго шануюць.

Пра ўсё мы маглі б і не даведацца, каб не літасць лёсу.

Едзем мы, едзем... І нашы спадарожнікі пачалі пацішу драмаць. Няхай, намучыліся хлопцы! Я гляджу, як на пустыню насоўваецца змрок. Раптам машына пачынае рухацца, бы змяя: ад аднае абочыны да другой. Здаецца, я закрычала. Памятаю толькі, што стала на борт і скочыла ў мяккі пясок. Машына тут жа плаўна кульнулася і лягла ўгару коламі. Усе выкаціліся ў пыл—і цішыня. Затым слабы голас Аліка:

— Лена, дапамажы знайсці акуляры!

«Ну, —думаю,—слава алаху, адзін жывы». Эсед і Міша валяюцца цёмнымі камячкамі—чую, дыхаюць роўна, спяць. Разумееце, спяць, чэрці! «Эсед,—кажу,—Эсед, прачніся ты, што за ліха. Машына перакулілася».

А ён: «Пачакай, Лена, зараз пасплю і пастаўлю яе на ногі...».

У кабіне ўжо варушацца. Саша-шафёр ціхенька лаецца: Гэта ж трэба—заснуць за рулём!» Мы разумеем яго, сапраўды грэх. Але нічога не зробіш, садзімся на цёплы пясок, выцягваем рыбу і цыгарэты «Памір». Зоркі буйныя, па яблыку, неба чорнае, пясок цёплы, вакол ні агеньчыка, роўна і ціха.

Саша-шафёр нервова расказвае пра далёкую дзяўчыну, кахаў яе і чамусьці пакінуў, пад Арлом жыве. Саша-інжынер не нацешыцца жонкай: разумніца—поездам паехала.

Праз колькі гадзін падыходзіць вялікі «Зіл». Хлопцы пачынаюць прасіць, каб нас узялі да Небіт-Дага. Мы ўпіраемся: разам дык разам, але ўсе хорам даводзяць, каб ехалі, просяць зайсці ў іх кантору і заўтра прыслаць больш магутную тэхніку памагчы падняцца ім на колы.

Мурзатыя, у пыле, мы а другой гадзіне ночы прыпаўзлі ў гасцініцу—месцаў, вядома, няма. І не трэба! Ладкуемся на крэслах з цвёрдым намерам не пакідаць вестыбюля. І тут здарылася нечаканае: дзве цёткі, што занялі дыван, забурчэлі спачатку сабе пад нос, потым ужо да адміністратара. Яны патрабавалі... уладкаваць нас. «Гэта ж геолагі, месяцамі ў пустыні, для нас жа стараюцца, а вы тут бюракратызм разводзіце».

Мы расплюшчылі вочы—бачым раскладушкі, потым прасціны, потым ключы ад душавых. Прызнацца, што мы не геолагі? Мы змоўчалі. І ўсё ж неяк няёмка было—на чужым аўтарытэце...

Небіт-Даг у перакладзе—Нафтавая гара. Небіт-Даг, якому няма яшчэ сарака гадоў, узнік на захадзе Туркменіі, у пустыні як цэнтр новага нафтавага раёна. Зараз тут буйныя нафтаперапрацоўкі. Над горадам заўсёды бачна галоўная яго прыкмета: то сіні, то зялёны, то буры з белымі палоскамі снегу на макаўцы конус—цэнтральная, каля дзвюх тысяч метраў вяршыня Вялікі Балхан.

Раніцой мы з задавальненнем пашпацыравалі па горадзе, прайшліся па раўнюткіх вуліцах. У дворыках-садах утульныя домікі, паміж цаглянымі карункавымі платамі і тратуарам абавязковы арык, абсаджаны высокімі вербамі, таполямі, акацыямі і вастралістымі клёнамі. Можна ўявіць, як нялёгка тут вырасціць дрэва, у пустыні, на саланчаках, і як неабходны яго цень летам у саракаградусную гарачыню.

Кідаем ліст на шыкарным небітдагскім паштамце—і ў дарогу!

### ЛІСТ ЧАЦВЁРТЫ

Ведаеце, якая тут вясна? Выйшлі мы сёння раніцай з небітдагскай гасцініцы, адмахалі кіламетры два, агледзеліся: на горад быццам хто сетку зялёную накінуў. Быццам і лістоў няма, а на дрэвы нібы туман асеў салатавы...

Дарога, як і ўчора, вытаптана машынамі проста сярод пяску. Пясок буйны, больш падобны на жвір, і раптам Алік нагінаецца і, як шчыры галантны кавалер, падносіць мне цюльпаны. Разумееце, гэта пасля ўчарашніх перыпетый! Але я цюльпанаў не бачу (магчыма, ад узрушэння: не так часта нам дораць кветкі), гляджу, азіраюся на ўзбочыну і не бачу. Нарэшце, сярод дробных каменчыкаў, на кароткай ножцы,—шэранькая, бы верабейчык, пад колер пяску кветачка. Набіраю букецік, але ён з непрывычкі здаецца лішнім, затыкаю яго паціхеньку ў кішэньку руказака, і Алік узвальвае паклажу на плечы.

На карце, паглядзіце, ад Небіт-Дага маленькі тупічок і кружочак Кум-Даг. Тут заканчваецца наезджаная дарога. Але мы распыталі. Аказваецца, ад гарадка ёсць «прасёлкі» на Кізіл-Арват, а нам большага і не трэба. Кум-Даг горад зусім маладзы, нафтавы. Вышкі, як і ў Баку, стаяць у адзіноце, без чалавека, смокчуць нафту, толькі што не на марскім беразе, а на пяску. Людзі тут усе маладыя, горад камсамольскі, і вельмі многа туркменаў-нафтавікоў...

Пахадзілі мы, паглядзелі. Цяпер трэба дарогу спытаць на Кізіл-Арват. Падыходзім да шафёра «хуткай дапамогі», хто ж лепей ведае. А ён бачыць—госці, дзейнічае рэфлекс усходняй гасціннасці, адчыняе дзверцы: маўляў, давай падкіну. А калі «хуткая» раптам спатрэбіцца?

— У нас усе маладыя, хварэць няма каму,—смяецца ён у адказ,—ды і часу зойме якую хвіліну...

...Мы аж падскоквалі ад радасці: наперадзе быў міраж! Так-так, той самы, пра які часопіс «Наука и жизнь» друкуе вельмі інтрыгуючыя артыкулы. Перад намі сярод пустыні рассцілалася мора! Але праз кіламетр міраж стаў явай. Ля абочыны плюхалася вада. Алік, як біёлаг-эксперыментатар, пакаштаваў—лякарства, хлорысты кальцый у чыстым выглядзе.

Разам з'явіўся страх: можа гэта падземныя воды выступілі? Адкуль жа ў пустыні, пад гарачым сонцам, сярод пылу—вада, ды яшчэ горка-салёная. Першая ж спадарожная машына спыняецца, з кабіны высоўваецца ўстрывожаны шафёр-туркмен.

— Куды ідзяце?

— У Кізіл-Арват, можа падвезлі б?..

— Не. Я тут блізка, у экспедыцыю, да геолагаў. А на Кізіл-Арват дарогі няма, вада затапіла. Ідзіце назад. Загінуць можна. Учора шафёр з машынай засеў...

— Адкуль вада?

— Пасля дажджоў яна не ідзе ў зямлю, мусіць, глеба такая. Уся вада і стаіць так, пакуль не высахне, а саланчак, як размокне, гіблае дзела...

І пачаў разварочвацца, потым махнуў рукой—сядайце, чаго стаіцё? Мы рашылі, што нас не зусім правільна зразумелі, і самымі выразнымі фразамі сталі запэўніваць, што мы бадзёрыя, дужыя і вернемся ў Кум-Даг самастойна. Але вадзіцель не хацеў і слухаць: ён не мог дапусціць, каб госці шэсць кіламетраў ішлі пехатою, у экспедыцыю яму не спехам, ды і што скажуць сябры, калі даведаюцца, што ён пакінуў нас у пясках— у геолагаў так не прынята.

Вывучаем туркменскую мову. Кум—пясок, небіт—нафта, даг—гара. Дык вось, вярнуліся мы ў Нафтавую Гару і адсюль працягваем падарожжа па чыгунцы.

Вы, мабыць, не ведаеце, што такое язда на таварняку? Хуткасць, свежае паветра і поўная свабода: хачу спяваю, хачу смяюся, не вісіць над табой кандуктарская ўлада, і прытым едзеш зусім бясплатна.

Селі мы на таварны цягнік, бо нам не падышоў расклад пасажырскіх паяздоў. А таварных—шмат. Толькі калі яны адыходзяць? Мой спадарожнік пытае ў машыніста: «Ці скора вы паедзеце?» Машыніст коратка кідае: «Сядай, хлопец, праз дваццаць хвілін».

Мы выбіраем камфартабельную тармазную пляцоўку, мяняем форму адзення. Алік аддае мне свой чорны світэр, а маю бялюткую пушыстую кофту хаваем у руказак. Заўважаем, што мы не адны. Ехалі мы і дзівіліся. Алік спяваў нейкія арыі, я акампаніравала ў рытме твіста.

А на насыпе кветкі, першыя вясновыя краскі—жоўтыя, белыя, дробныя, як пацеркі, чырвонымі пырскамі рассеяны макі... А там, дзе няма кветак—пясок, на яго надзеты рашоткі з трыснягу, каб не асоваўся і не заносіў дарогу. Не трэба асабліва напружваць фантазію, каб уявіць сабе таварняк экспрэсам, а плюхаючую ў цыстэрнах нафту—лавандавым маслам.

Па дарозе нам далі яшчэ адзін дызель, і мы, цяжка пыхкаючы, лезлі на гару. І раптам на самым перавале—доўгі паравозны гудок. Састаў спыніўся. Маленькая станцыя ў пустыні, дзве хаткі, чыстыя, акуратныя. А проста перад намі шырокая гранітная стэла метры тры ў вышыню. На ёй напісана золатам:

«Тут 20 верасня 1918 года англійскімі інтэрвентамі расстраляны 26 бакінскіх камісараў»—і імёны.

Дзіўнае пачуццё. Для мяне быццам і не было гэтага паўвеку, што аддзяляе нас ад таго дня. Тварам да твару з гісторыяй. Раней як было: падручнік па гісторыі для 10-га класа, некалькі слоў пра камісараў, партрэт Шаумяна, а запаміналася гэта ў адной меры з іншымі падзеямі. Цяпер жа, здаецца, што я пазнаёмілася з гэтымі людзьмі, ведаю іх у твар, бачу іх, быццам сустрэліся мы. І калі б мне цяпер давялося расказваць пра камісараў, я расказала б пра кожнага!..

І балюча. Такое ж пачуццё ахапіла мяне на месцы дуэлі Пушкіна: быў чалавек; камень гэты, пясок гэты яго бачылі, а я не змагу яго ўбачыць, ніколі...

### ЛІСТ ПЯТЫ

Даліна Капет-Дага... Якія тут цюльпаны! Такія яркія, што аж балюча вачам, чорвоныя-чырвоныя, а ўнутры густая чарната. На зялёных схілах гор! І горы зусім не падобныя ні на Каўказ, ні на Карпаты. Выветраныя пячоры, лысыя крутыя ілбы, а лесу няма, адны кветкі. Нияркія, шэра-зялёныя, бурыя, шакаладныя. Праўда, мы іх пакуль што мала даследавалі, бо ехалі на грузавіку, на мяшках з высеўкамі. Мяшкі былі незавязаныя, і Алік згубіў у высеўках свае акуляры, ледзь адшукалі.

Выехалі мы з Кізіл-Арвата, што азначае Красная дзяўчына. І праўда: у новым цырульным салоне дзяўчаты зрабілі мне такі выдатны манікюр, што ні да гэтага, ні пасля, мусіць, такога не будзе.

І яшчэ адна сустрэча. На таварняку мы змерзлі, вылезлі на нейкай станцыі—чорныя, аж пыл з носу сыплецца. Падскочылі да крана, з якога напаўняецца арык, і давай плюхацца.

Вечарэла, але ў прыцемках я заўважыла ў двары маладога афіцэра, як падалося мне, з пячорынскімі вусамі. Калі зайшлі ў вакзал, ён прапанаваў мне свой шынель, а было даволі холадна пасля арыкавага купання. Яго багажом была толькі авоська, наладаваная кнігамі, і ўсё зборнікі вершаў. Наш Пячорын увесь час сядзеў, унурыўшыся ў кнігу...

А ў сяле Хаджа-Кала мы шукалі сельсавет, каб даведацца, які аул блізкі за ўсё да гор. У сельсавеце чакаем старшыню, заходзіць жанчына, статная, прыгожая, на твары ружовы водбліск ад хусткі. Трымае за руку такога ж прыгожага хлопчыка. Потым нешта пяшчотна яму сказала, выправадзіла і звярнулася да нас.

Цікавае спалучэнне: яркае цыганскае адзенне і тэлефонная трубка. Ніякіх прызнакаў бюракратызму. Праз пару хвілін яна праводзіла нас на скрыжаванне, каб на спадарожнай машыне адправіць у Бендэсен, горнае паселішча. Тут мы даведаліся, што амаль усе пасады ў сельсавеце займаюць жанчыны.

Бендэсен увесь быў у бэзава-ружовым воблаку: цвілі абрыкосы, персікі, яблыні. Зялёныя круглыя горы з пячорамі, падобнымі на пчаліныя соты, маленькія вослікі з бідонамі і пакункамі, удвая большымі за сябе, акуратныя глінабітныя домікі, арыкі, што пачынаюцца ад артэзіянскіх свідравін—і над усім гэтым пахучае бэзавае воблака...

У доме брыгадзіра Джафара Нурліева разгаварыліся з гаспадаром і яго мачахай, цётухнай Аксалтан. Цётухна Аксалтан раней працавала ў дзіцячым садзе ў сталіцы, потым выйшла замуж за ўдаўца. Сваіх дзяцей у яе не было, і Аксалтан сабралася зноў у Ашхабад, але Джафар не адпусціў: яна яму маці, яна гаспадыня, і яе месца тут. Яе слова—закон для сына, нявесткі, унучкі. Аксалтан высокая, маладжавая і нейкая вельмі ўвішная. Гаварылі і пра калгасныя справы. Калгас земляробчы, вырошчваюць збожжавыя, разводзяць жывёлу: кароў, авечак. Сады вялікія.

Потым я адправілася на другую палавіну. Сэрцы гаспадынь і суседак мне ўдалося заваяваць зусім нечакана. У пакоі стаялі кросны, вельмі падобныя на беларускія. Толькі ў нас ткачыха сядзіць на табурэце ці на такім спецыяльным зэдліку, а тут проста на падлозе, і таму ў зямлі выкапана ямачка для панажоў.

Кросны! Я сказала, што гэтак жа тчэ мая мама. Жанчыны народ цікаўны, пайшлі роспыты, што ў нас ткуць, якія ўзоры, прапанавалі і мне сесці за станок. А ткуць тут шоўк на халаты, чорвоны з залатой пражылкай.

Далей—болей.

— Добрыя ў цябе косы,—цётухна Аксалтан робіць камплімент маёй новай паходнай прычосцы,—толькі насіць іх трэба правільна: калі ты не замужам—наперадзе, а калі маладзіца, то за спіной. Каб жа Ніна такія выгадавала...

Каб падтрымаць размову, пытаюся, чаму ж Ніна парушыла звычай і засталася без касы.

— Яна прыехала да нас, урач,

выйшла замуж за настаўніка, за туркмена. Сукенку носіць туркменскую і хустку таксама, а вось валасы стрыжаныя. Прыгожая наша Ніна,—цётка Аксалтан гаворыць пра гэта з гордасцю, і раптам выяўляецца, што Ніна таксама з Беларусі. І няма яе як на тое ліха. Канікулы ў школе, і яны з мужам на тры дні ў Ашхабад паехалі. Шкада, што сустрэча не адбылася.

Працягваю пісаць у поездзе. Імчымся ў Ашхабад. Толькі ў мяне адной праверылі дакументы пагранічнікі. З усяго вагона-рэстарана ў мяне адной! Прычыны могуць быць дзве: ці іх збіў з панталыку мой выгляд, ці рашылі паглядзець у пашпарце сямейнае становішча. Пагранічнікі вельмі строгія. За дваццаць метраў—граніца. Дрот, узараная паласа, а за ёй такі ж выпалены стэп, толькі іранскі. Каза—іранская, хаціна—іранская, людзі таксама не нашы...

Кажуць, што з Ірана да нас заходзяць тыгры. Крочылі мы па гарах, а там каровы трушком па скалах тупаюць—не іначай, як тыгры напалі, але не, пабегалі трохі і спыніліся.

На перавале кашара. Пастухі клічуць завітаць—не так часта тут пешаходы здараюцца. Чаем нас пачаставалі і маўчаць—звычай не вымагае турбаваць гасцей роспытамі. Мы расказалі ўсё самі і пахвалілі іх цыбулю. І нам яе насыпалі ледзь не поўны рукзак...

Ну, усё! Будзем знаёміцца са спадарожнікамі і глядзець у вокны, бо за гэтымі пісьмамі свету божага не ўбачыш.

●

У Ашхабад прыехалі позна. На світанку мы ўжо былі ў скверы на цэнтральнай плошчы, ля помніка Уладзіміру Ільічу.

Фігура Леніна ўстаноўлена на высокім прамавугольным п'едэстале, кожная грань гэтай стэлы—дыван, кожны мае свой узор, арнамент, афарбоўку. Барвова-чырвоны мармур, біруза, малахіт, яшма, найтанчэйшая мазаіка—і перад вамі славуты туркменскі дыван. Дыван у доме туркмена—мэбля, сямейная каштоўнасць і твор мастацтва. Яго ткуць гадамі, нават дзесяцігоддзямі, укладваючы ў мільёны вузельчыкаў, у складанейшы арнамент душу і сэрца, самыя запаветныя мары. Свае спадзяванні і думы людзі прынеслі Леніну.

Ашхабад падобны на Мінск. Тыя ж роўныя кварталы, шырокія вуліцы, дамы. Мы заўважылі гэта Мамеду Бадаеву, рэдактару газеты «Савецкі Туркменістан», з якім пазнаёміліся. Ён памаўчаў і ў водуме неяк сказаў: «Ваш горад у вайну разбурылі, а наш у сорак восьмым за адно імгненне, страшнае імгненне. Аднаўляліся разам. Мінску 900, Ашхабаду, ёсць звесткі, больш за дзве тысячы гадоў, а равеснікі».

У Ашхабадзе больш шасцісот гектараў зялёнай плошчы. Дрэвы адны высачэзныя, гонкія, другія быццам нядаўнія саджанцы. Аказалася, што гэта сапраўды так. У горад цякла вада з дзвюх невялікіх рэчак, што бягуць з Капет-Дага, іх разбіралі да самага дна, і дрэвы сталі гінуць. Каб не Каракумскі канал, не воды Аму-Дар'і, не быў бы такім Ашхабад.

Адчуваю сябе шэрай курапаткай. Увесь Ашхабад выглядае букетам ад жаночых нацыянальных убораў. Нават еўрапейкі са сваімі льнянымі стрыжкамі аддаюць перавагу туркменскім сукенкам і вышытым шараварам. Ды і хто ж адмовіцца ад гэткай раскошы доўгіх тунік, срэбных чаканеных блях у косах, асляпляльных шлейфаў-хустак...

У рэстаране нам прынеслі «зеляніну», талерку чыста вымытай травы—мачай яе ў соль і еж. Вельмі смачная, пахне адразу і кропам, і часнаком.

Мая суседка па нумары, камандзіровачная масквічка, усё здзіўляецца, дзе гэта людзі бяруць цюльпаны—увесь горад палымнее ад іх. Я ўспомніла Капет-Даг і ўсміхнулася, бо мая суседка на такое падарожжа па цюльпаны не згодна.

## ЛІСТ ШОСТЫ

Байрам-Алінскі раён—самы пясчаны. Гарадок вельмі ўтульны, чысценькі, зялёны. Цікава, што тут хлеб і астатнія стравы несалёныя. Аказваецца, ўсё гэта—для здароўя, Байрам-Алі—сусветна вядомы курорт для хворых ныркамі. Заадно тут і ўсе гарадскія харчблокі перайшлі на дыэту.

Наколькі я зразумела, то ныркі тут лечаць так: даюць чалавеку гарачы зялёны чай, а на двары—плюс 40 і неймаверная сухасць, то ўсе шкодныя рэчывы вымываюцца потам, а ныркі тым часам адпачываюць.

Мы былі ў рэдакцыі раённай газеты, гутарылі са сваімі калегамі-журналістамі, і яны ў нас распытвалі пра ўраджайнасць, пра новабудоўлі Беларусі, пра беларускія народныя святы і звычаі.

Пасля агульнага фатаграфавання і абмену думкамі Амараў, застаўшыся з намі адзін, сказаў:

— Раскажыце пра Магілёў. Там бацька ў мяне ў сорак чацвёртым загінуў. Я трымаю сувязь з гэтым горадам, пісьмы пішу школьнікам і сам думаю наведацца туды...

Потым нам асядлалі «газік», і мы паехалі ў Мерв.

Па старажытным горадзе блукаюць чарапахі, спакойна і дзелавіта. Колькі разоў разбураўся гэты горад! Нават Аляксандр Македонскі не прамінуў яго, але Мерв зноў і зноў адбудоўваўся, яго нашчадак ёсць і цяпер—Мары. Праўда, да Мары кіламетраў сорак адсюль. А на месцы старога—насыпы, курганы, руіны. Мы выйшлі з машыны і хадзілі па гарадзішчы, узбіраліся на пагоркі, лазілі да байніц—пад нагамі ўвесь час крышыліся гліняныя чарапкі. Падняла два на памяць. Адзін сабе, другі разыграю ў латарэю між калег.

Недалёка—маўзалей Султана Санджара, свяшчэнная мясціна мусульман. Забраліся па адхоннай лесвіцы на вяршыню і доўга глядзелі на Мерв. А ўнізе старая туркменка набожна і ўрачыста сыпала пыл з магілы султана на ручкі свайго ўнука. Відавочна, каб малы вырас дужы і смелы...

Усё гэта я пішу з Уч-Аджы. Мы адпачываем у саўгаснай гасцініцы. Са мною жыве жанчына з Ашхабада—эканаміст. Удзень мы абышлі ўвесь пасёлак. Тут ёсць чыгуначная станцыя, школа-інтэрнат, бальніца, кантора саўгаса, дамы чабаноў. Адразу за дамамі—пустыня, самая сапраўдная, без травы, без калючак, без цюльпанаў—пясок, чысты, мяккі, і бархатны, як на малюнках у падручніку па геаграфіі. Тут жа ў канцы пасёлка—прыстань для караблёў пустыні. Дзевяць вярблюдаў «на прыколе». Іх не выцеснілі да канца ўсюдыходы, вось і заўтра яны павязуць прадукты да бліжэйшых калодзежаў, кіламетраў за пяцьдзесят.

Мы адразу пасябравалі з Дурды Порсыевым, парторгам саўгаса. Яму трыццаць пяць гадоў, бацька шасцярых дзяцей, закончыў партыйную школу. Дурды бываў толькі ў Маскве, адпачынак праводзіць у родных мясцінах.

У канторы на сценах развешаны рамачкі, за шклом дыпломы, і да кожнага прыколаты залаты медаль. Пачынаючы з 1937 года і па сёлетні год саўгас удзельнічае ў ВДНГ. І яшчэ мае вялікі Залаты медаль Лейпцыгскага кірмашу—гэта ўсё за свой славуты каракуль.



**Дурды** (злева) **— парторг саўгаса і вясёлы гід.**



**Байрам-Алі. Былая царская будыніна — цяпер адзін з лячэбных карпусоў курорта.**



Маўзалей султана Санджара.

Дырэктар Азатгельды Аманмурадаў (яму трыццаць чатыры гады) прывёў нам лічбу—плошча саўгаса 380 тысяч квадратных кіламетраў... Гэта амаль тэрыторыя Мінскай вобласці.

Чабан—прафесія тут самая ганаровая. Я запытала ў хлапчука Амара, сына вусатага чабана Мухамеда-кулі Пірыева (па-туркменску вусаты—Муртлі), кім ён хоча быць, і Амар не задумваючыся адказаў—чабаном. Праз два гады ён закончыць школу і пойдзе да бацькі на падмогу.

Позна. Трэба класціся спаць. Заўтра ў пяскі, у сапраўдныя Кара-Кумы. Дамоў пакуль не цягне—тут, як дома, людзі гасцінныя, шчырыя. Сёння мы паспачувалі бельгійцам, галандцам і г. д. Якія ж маленькія іх краіны—на веласіпедзе аб'едзеш. Не тое што ў нас...

## ЛІСТ ВОСЬМЫ

Што вам расказаць пра Уч-Аджы? З раніцы ўзвалілі на ўсюдыход соль, накрылі мяшкі кашмой і разлегліся на іх. Едзем без дарогі. З бархана на бархан. Я казала ўжо, што Дурды—узор патрыятызму і паэт. Калі мы захапляемся пустыняй, яно зразумела—турысты, а Дурды ездзіць па ёй кожны дзень і здзіўляецца не менш за нас.

Што такое пустыня ў нашым уяўленні? Пясок, калючкі, гарачыя бураны? А тут пяскі—гэта паша, гэта, калі хочаце, жыццё. Авечак пасуць у пясках, корм нарыхтоўваюць у пясках, дровы, кветкі, і нават хлеб пякуць... Распальваюць агонь, награваюць пясок, кладуць ляпёшку, а пасля выцягнеш, здзьмухнеш пясок— і яна чыстая, белая, мяккая. А пясок чысты, сядзь, ляж, куляйся па ім, потым страсянуўся—і ўсё чыстае.

Пустыня пакрыта зялёнай, падобнай на іголкі травой з рудымі шышачкамі-кветкамі на макаўцы. Гэта ілак—лепшы ласунак авечак. Па зялёным полі чырвоныя макі і блакітныя ірысы, з бархана на бархан—кусты саксаулу, быццам альшэўнік на лузе. На саксауле ледзь прыкметныя зеленаватыя зародачкі лістоў (я калісьці чытала, што саксаул—родзіч нашай крапівы, на выгляд не падобны да яе), пасля «лісты» высахнуць. Гэта цудоўнае паліва. З галін робяць загоны для авечак—кашары. Зімой для жывёл саксаул можа быць і кормам.

Ёсць і «голая» пустыня з залізанымі віхорчыкамі, з шоргатам пяску, дзе адчуваеш сябе першапраходцам, бо ранейшыя сляды замятае. На суседняй станцыі размешчаны рэспубліканскі запаведнік па саксауле і даследчы інстытут, дзе думаюць пра тое, каб такія месцы ўсё ж засеяць універсальнымі кустамі.

Многа суслікаў. Яны стаяць слупкамі і з цікаўнасцю разглядаюць аўтамабіль. Шафёр Сеід кажа, што не раз сустракаў джайранаў, зайцоў і дзікіх кабаноў ля каракумскага канала—нам жа не пашчасціла.

Чабаны жывуць у юртах. Гэта занадта складаная пабудова, каб яе пасапраўднаму апісаць. Усе палкі-рэбры зроблены так, каб можна было сабраць дом за паўгадзіны. Пасярэдзіне печка-чыгунка, на падлозе кашма, на сценах дываны, мноства падушак. Непадалёку ад юрты—калодзеж з помпай і загон.

Чабаны і летам і зімою ў пустыні. Толькі дзеці ў пасёлку ў школе-інтэрнаце. Атара—каля паўтары тысячы авечак; натуральна, што пасуць яе ўсёй сям'ёй і зарабляюць добра.

У саўгасе моцна асеў Усесаюзны навукова-даследчы інстытут. Выведзена новая парода. Пад той час тут былі Эрзра Мееравіч Эрман, родам з Мсціслаўля, кандыдат навук, кіраўнік работ, яго памочнік Алік і дзве маладыя аспіранткі Шура і Ніна.





У гасцях у чабаноў.

Эрзра Мееравіч сорак гадоў жыве ў Туркменіі і сорак гадоў займаецца авечкагадоўляй. Ведае звычаі і мову народа, пяскі і іх жыхароў. Аднойчы за ім гнаўся раззлаваны вярблюд—ён ледзь уцёк на добрым скакуне: пры нас яго за руку ўцяла фаланга...

Інстытуцкая брыгада заклапочана, каб палепшыць новую пароду. Ягнятак бясконца абмерваюць, узважваюць...

Кіраўніцтва саўгаса ўсё мясцовае і маладое. Дурды—парторг, пра яго я пісала. Худай-берды (у перакладзе яго імя азначае Багдан)—ветэрынарны ўрач, загарэлы курд з круглымі чорнымі вачыма. У колішнія часы яго павінны былі б забіць, што ажаніўся з туркменкаю. Жонка ў яго таксама прыгожая, некалькі год назад яны ездзілі ў Маскву і на памяць пра гэта выпісалі газету «Вечерняя Москва»...

З'ехаліся мы ўсе ў юрту Аннагельдыева, чабана-казаха, пераможцы спаборніцтва, селі вакол бешбармака, і мне, ганаровому госцю, падалі галаву барана. Трымаю ў руках, а галава проста з чыгуна, гарачая, не ведаю, што з ёю рабіць. Суседка Шура шэпча ціха—адкалупні трохі ды перадай



Атара.

далей, няхай мужчыны распраўляюцца...

Госці павінны сказаць тост. Бачу, Алік бянтэжыцца і міргае на мяне, а мне гэта ніколькі не цяжка, вельмі ж спадабаліся мне і людзі, і іх гасціннасць. Выйшла шчыра і квяціста. Апошні тост сказаў Азатгельды Аманмурадаў, дырэктар, і сказаў прыкладна так: «У нас у саўгасе працуюць людзі пятнаццаці нацыянальнасцяў: туркмены, курды, белуджы, казахі, узбекі, яўрэі, персы. А сёння ў гэтай юрце мы сустракаем прадстаўнікоў яшчэ адной нацыянальнасці нашай краіны—беларусаў, і ўсе мы сябры. Вып'ем за нашу дружбу».

Мусульмане, асабліва пажылыя, не п'юць—не дазваляе каран, а тут нават бацька гаспадара выпіў—за такі тост алах не ўзлуецца. Між іншым, алаху цяпер жывецца туга, такія анекдоты атэістычныя мы чулі! Раскажу, як прыедзем.

І яшчэ тут усе вельмі любяць музыку. Для гэтых месц падыходзіць не еўрапейская, а менавіта ўсходняя, цягучая, аднастайная, спякотная, нібы пустыня, зыбкая, бы пясок. І не прыдумаеш тут інакшай, і не надакучыць яна, як не надакучвае мора, неба, стэп...

Насустрач ранішняй зары
Па Бухары...

Гэтай песняй мы пачынаем свае паходы-агляды. У Бухары мы трэція суткі, а яшчэ сем помнікаў старажытнасці не пабачылі. Не паспяваем!

Наогул, Бухара павінна стаць Мекай для прыхільнікаў даўніны. Тры дні хаджу і тры дні не магу знайсці дарогу да гасцініцы, блытаюся. У старым горадзе ёсць тры скрыжаванні, тры купалы, усе вельмі падобныя, і ад купала патрэбна выбраць кірунак. Ціснешся сярод высокіх гліняных сцен, у шэрых шурпатых мурах—веснічкі, нізенькія, замест званкоў латунныя малаточкі, тук-тук... Здаецца, адчыняцца дзверы, і выгляне які-небудзь сваяк Насрэдзіна. Але ў старых дварыках хлапчукі ганяюць футбол, на пакатых земляных стрэхах выраслі антэны, а да шурпатых сцен прыляпіліся водаправодныя трубы. Дарэчы, пра водаправод: раней ваду чэрпалі з хаузаў, гарадскіх вадаёмаў-басейнаў, чэрпалі разам з малярыяй, цяпер сюды прыйшла Аму-Дар'я, 150 кіламетраў па канале, паднялі яе на 48 метраў.

У горадзе каля дваццаці помнікаў; медрэсэ , маўзалеі, мінарэты— і ўсё гэта суцэльны помнік. Ідзеш, і раптам калона ўся з бірузы. На самым высокім узорчатым мінарэце буслава гняздо. Сорак пяць метраў мінарэта, фотаапарат бярэ толькі па кавалках, бо адысці няма куды, каб схапіць увесь. А вышыня яго выклікана неабходнасцю: адсюль скідвалі асуджаных на смерць.

Вы ж, вядома, ведаеце, што да дваццатага года ўладаром Бухары быў эмір. У палацы гэтага эміра ёсць спецыяльныя каменныя ямы, дзе вязняў з'ядалі блашчыцы да смерці. І ёсць карціна ў музеі, там селяніна рэжуць, як авечку, нажом па горле. Мы пыталіся ў старых узбекаў, ці не выдумка тут крыху, то яны казалі, што страшней было яшчэ.

Даведаліся мы і пра тое, што ў бібліятэцы Бухары пачынаў свой шлях у навуку Авіцэна, тут пісаў вершы Фірдоусі.

Я ўпаміналa пра купалы-скрыжаванні, у іх, як і даўней, магазіны, аптэкі, чайханы. Выйдзеш з купала—з абодвух бакоў вуліцы майстэрні: дзверы адчынены, і амаль на вуліцы працуюць бляхары, тачыльшчыкі; палахаюць кавальскія горны. На парозе паўсядаліся заказчыкі і проста прыяцелі: чаканшчык гутарыць і нетаропка нарэзвае карункі на збане...

Не падумайце, што ўся Бухара такая. Ёсць і новыя раёны, але старадаўнасць не ўспрымаецца карэннымі жыхарамі як экзотыка, усё звычайна і звычна.

Былі сёння на кірмашы. Гэтую з'яву пакажу пры сустрэчы на фота.

Кажуць, мусульмане шануюць святыні, а ўчора ў маўзалеі Ісмаіла Самані я зразумела, што пашана гэтая мае дачыненне не так можа да святыні, як да працы чалавека, што стварыў яе. Маўзалей пабудаваны ў XII стагоддзі і ўвесь карункавы, цэгла ўкладзена бантамі, кветкамі, колцамі. Глядзі, любуйся, захапляйся! Побач хлапчукі з мячом завалтузіліся, і стары ўзбек грозна накрычаў на іх...

Каля старога хауза, басейна, адкуль у даўнія часы чэрпалі ваду, пад чынарамі адкрытая чайхана. На драўляных канапах, падагнуўшы ногі, сядзяць дзядулі, кожны мае асобны чайнічак, піялу. Дзядулі ў чалмах, п'юць нетаропка, размаўляюць. Побач шашлычнік, малады, хуткі, спрытны, як спружына. Яго работа напамінае ігру на ксілафоне—пінь-пінь—шампуры ўкладзены ў радок, пі-і-і-і-нь!—і ўсе перавернутыя, яшчэ ўзмах рукі—і яны на талерках, пад соусам, пасыпаныя зялёнымі шчыпірамі...

У Бухары вясна, сонца. На вуліцах мора народу.

Наступнае пісьмо будзе з Самарканда.

## ЛІСТ ДЗЕВЯТЫ

Ашчэраныя пашчы, гіканне, свіст... Ад сонечнай Арменіі, прапахлай ружамі і віном, да экзатычнай Індыі імчацца раскосыя коннікі. І на тупат капытоў збіраюць воінаў індыйскія раджы, хаваюцца прыгожыя дзяўчаты, вясёлыя ў прадчуванні работы купцы... І з імем алаха на вуснах яшчэ адно грознае, велічнае, недасягальнае—Тамерлан. Яго палацы, завітыя кветкамі, устаўленыя залатымі вазамі, з мноствам жонак і слуг, наводзяць на паслоў трапяткі страх. Яго незлічоныя багацці становяцца легендамі, прасторы яго імперыі нельга аб'ехаць за год. А ён, вялікі Цімур, граза свету, сядзіць у недасягальных пакоях і з дзіцячым захапленнем пазірае на свайго ўнука: Улугбек чытае кніжку. Сухарлявы, кульгавы стары не ўмее чытаць і вышэй за ўсё цэніць вучонасць...

...Шчыра кажучы, цяпер можна прызнацца, асабіста мяне ў пачатку падарожжа больш за ўсё цягнуў Самарканд. І вось сталіца вялікага заваёўніка. Блакітны купал маўзалея Гур-Эмір проста ў цэнтры зусім сучаснага горада... Праўда, яго засціць новая гасцініца, але то бяда не толькі Самарканда, а і гарадоў буйнейшых.

Толькі Гур-Эмір размешчаны ў цэнтры, а астатні каскад маўзалеяў у другім канцы горада. Што здзіўляе—гэта блакіт. Падумаць, дык на купалы і пыл асядае—а яны ззяюць. Незвычайная сінява і сучасная глазур...

Маўзалей Гур-Эмір Тамерлан будаваў для свайго духоўнага настаўніка—гуру. Незвычайная цагляная кладка, арнаменты і рабрыстае бірузовае паўшар'е зверху. Тут жа пахаваны сам Цімур, яго сыны і Улугбек.

Дзіўныя рэчы часамі творыць прырода. Гэта ж трэба, каб у крывавага, крутога, наравістага цара быў такі ўнук! Улугбека тут вельмі шануюць, ёсць вуліца яго імя, музей вучонага і абсерваторыя. Яна за горадам, на пагорку. Гэтае месца доўга шукалі, пакуль у пачатку нашага стагоддзя В. Л. Вяткін не адкапаў секстан. Глыбока ў зямлю ідуць каменныя паўдугі з дзяленнямі, вузкая доўгая траншэя, нібы ўваход ў мінулае. Тут Улугбек рабіў свае разлікі, тут адкрыў новую зорку, і ў музеі яго партрэт побач з партрэтамі Каперніка, Галілея, Джарджана Бруна. Праклялі Каперніка, судзілі Галілея, спалілі Джарджана, забілі Улугбека. Быццам і варожыя рэлігіі каран і евангелле, а метады—аднолькавыя.



Узоры Самарканда.

У Самаркандзе ёсць медрэсэ Улугбека. Калоны, скляпенні, арнаменты, але будынак, як і ўсе іншыя. Толькі гаварыў у ім са сваімі вучнямі Улугбек пра зоркі, планеты, зямлю, навучаў іх матэматыцы, астраноміі, геаметрыі. Яго не вабілі войны, набегі, паходы: толькі веды—гэты агонь запальваў усе яго думкі і пачуцці. Ён быў цар, але як належыць вялікаму вучонаму, пайшоў супраць дзікіх звычаяў, супраць канонаў рэлігіі, супраць цемрашальства і невуцтва. Мулы звялі яго са свету—унука Тамерлана.

Усе іншыя маўзалеі размешчаны каскадам, інакш не назавеш. Сцяжынка з прыступкамі і пляцоўкамі знізу ўверх— і з двух бакоў маўзалеі. Кладка сцен, арнаменты, купалы, стылі—розныя. І што цікава: каран забараняе маляваць людзей, птушак, звяроў, а на грабніцы сястры Цімура

мастак, мабыць, са згоды ўладара, намаляваў белых буслоў. Белыя птушкі на блакітным небе...

...Вясна, вылазяць клейкія лісточкі, пахне раскапанай зямлёй...

Сёння мы былі ў Бібі-ханум. Гэту мячэць Цімур будаваў для любімай жонкі, але не закончыў. Цяпер яна ўжо стала велічнымі руінамі з блакітнымі купаламі. На дворыку цвітуць грушы, пяюць шчыглы і пажылыя англічане—муж і жонка жыкаюць кінакамерай.

Ліст канчаю ў Ташкенце. Вёз нас сюды малады шафёр з Янгіера. Ён не карэнны жыхар, прыехаў па камсамольскай пуцёўцы, але з веданнем справы паказваў нам вароты цімураўскага царства—дзве скалы над цяснінай і ўсё клікаў нас у Янгіер. Ёсць такая песня пра Галодны стэп:

Янгиер, Янгиер, город ласковый, зеленый,
Янгиер, Янгиер, город песен и влюбленных...

Але падарожжа кончылася, і малады горад застаўся без нас.

А Ташкент будуецца. Глядзім, якая вуліца лепшая. Хто жыве на Беларускай, задаволены. Падслухалі такую размову: на лаўцы ў скверыку два дзядзькі сустрэліся. Адзін навасёл расхвальвае новую кватэру, другі ўважліва слухае і хітра падтаквае. Першы закончыў дыфірамбы свайму жытлу і, мусіць, з ветлівасці пытае:

— А ты дзе жывеш?

— На Беларускай.

— О-о! Пашанцавала. Будаваць умеюць!

Нам хацелася сказаць, што мы беларусы, але ўспомнілі тое, як нас прынялі за геолагаў, і прамаўчалі.

Больш раскажам, як прыедзем, бо поезд хутка...

**У студзеньскім нумары—**

**аповесць**

**Міхася ВЫШЫНСКАГА**

**«НА ПАВАРОЦЕ»**






Маятнік Фуко ў Ісакіеўскім саборы ў Ленінградзе.

# НЕЗВЫЧАЙНЫ МАЯТНІК

Калі вам давядзецца пабываць у Ленінградзе, зайдзіце ў Ісакіеўскі сабор. Там вы ўбачыце велічэзны маятнік, які звісае з-пад купала. Яго павольнае рытмічнае калыханне — дасціпны і відавочны доказ вярчэння Зямлі вакол сваёй восі. Упершыню такі маятнік быў падвешаны французскім фізікам Ляонам Фуко ў 1851 годзе ў Пантэоне ў Парыжы.

Сваю навуковую кар'еру малады Фуко пачаў на медыцынскай ніве, прысвяціўшы некалькі гадоў вывучэнню медыцынскіх навук. Тры гады ён працаваў прэпаратарам на кафедры гісталогіі. Пазней змяніў профіль занятку — захапіўся дагератыпіяй, і, пазнаёміўшыся ў працэсе выканання гэтых работ са славутымі французскімі вучонымі Араго і Фізо, правёў некалькі арыгінальных даследаванняў у галіне оптыкі.

Амаль дзвесце гадоў у навуцы галоўнае месца займала тэорыя выпраменьвання святла Ньютана. Яна лічылася класічнай, і ніхто з вучоных не імкнуўся яе абвергнуць.

Фуко ўпершыню «пахіснуў» яе, вызначыўшы з дапамогай люстраў, якія верцяцца, хуткасць святла ў вадзе і паветры.

Яму належыць і стварэнне палярызацыйнай прызмы, прыгоднай для работы ў ультрафіялетавай вобласці спектра — прыбора для назірання зорак. Ён першы звярнуў увагу на награванне металічных цел пры хуткім вярчэнні іх у магнітным полі (так званыя токі Фуко).

Доўгі час навуковыя заслугі Фуко не знаходзілі афіцыйнага прызнання. Першай абрала яго сваім членам Пецярбургская акадэмія навук. Пазнаёміўшыся з Фуко ў 1851 годзе, у час навуковай камандзіроўкі ў Францыю, рускі акадэмік Б. С. Якобі па заслугах ацаніў талент маладога фізіка (яму тады было 32 гады).

Выступаючы 15 лістапада 1860 года на ўрачыстым пасяджэнні Акадэміі, Якобі гаварыў:

«Сярод фізікаў не толькі Францыі, але, можна сказаць, усёй Еўропы Ляон Фуко займае адно з віднейшых месц. Спіс ягоных шматлікіх прац з'яўляецца бліскучым сведчаннем плённай дзейнасці. Яго эрудыцыя, яго вялікія веды, якія ахопліваюць амаль усю галіну фізічных навук, яго тонкі і вынаходлівы розум садзейнічаў таму, што ён зрабіў адкрыцці, якія атрымалі самую гучную вядомасць не толькі ў вузкім вучоным свеце, але і ў самых шырокіх колах».

Падтрымка Фуко Пецярбургскай акадэміяй паслужыла сігналам для прызнання яго навуковых заслуг і на сваёй радзіме. Аднак спатрэбілася яшчэ пяць гадоў, перш чым Парыжская акадэмія навук знайшла магчымасць уключыць яго ў лік сваіх членаў. Ён быў таксама членам Берлінскай акадэміі навук і Лонданскага каралеўскага таварыства.



Валеры Ажгірэй ў забегу на 800 метраў.

# НА СТАРЦЕ— ПАЎМІЛЬЁНА



З кап'ём — чэмпіёнка гульняў Таццяна Бурло.



Страляе прызёр рэспубліканскіх гульняў Антаніна Кароль, лабарантка Гродзенскага кааператыўнага тэхнікума.

Гэта было незабыўнае відовішча. Па масавасці ці знойдзецца яшчэ адно такое спаборніцтва, якім былі сёлетнія сельскія гульні. У розных кутках рэспублікі на старты выйшла амаль паўмільёна чалавек! Людзі розных прафесій і ўзросту выйшлі, каб памерацца ў спрыце і сіле...

Раскажам пра некаторых.

Маладая работніца Мінскай птушкафабрыкі імя Крупскай Тамара Кургановіч, якая ўдзельнічала ў спаборніцтве лёгкаатлетаў, старанна наведвала заняткі секцыі лёгкай атлетыкі, трэніравалася. І старанне яе не прапала дарэмна. Тамара на абласных гульнях заняла першае месца.

Валянцін Касяк працуе шафёрам у вёсцы Сошна на Піншчыне. Мужчына ўжо ў гадах, але моцна захапляецца гарадкамі. У сваім двары ён абсталяваў пляцоўку. Трэніраваўся не толькі сам, але і сяброў-механізатараў падахвоціў. Каманда, якую падабраў Валянцін, стала мацнейшай у раёне і вобласці. На рэспубліканскіх спаборніцтвах хлопцы крыху спасавалі, але занялі чацвёртае месца. Сам трэнер выканаў нарматыў другога разраду.

Таццяна Бурло жыве ў Дзяржынску. Сваё захапленне спортам яна дзеліць паміж лёгкай атлетыкай і матагонкамі. Усюды паспявае, здабываючы «трафеі». На гэтых сельскіх гульнях Тамара стала чэмпіёнкай, далей за ўсіх кінуўшы кап'ё. А шафёр з Крупскага раённага аб'яднання «Сельгастэхніка» Мірон Каваленка мацнейшы сярод асілкаў Міншчыны.

Яшчэ адзін прыклад. На племзаводзе «Індустрыя» Пухавіцкага раёна запявалам усіх спартыўных спраў стаў Валеры Ажгірэй. Ён аддаў перавагу лёгкай атлетыцы. Штодня рабіў кросы. На рэспубліканскіх сельскіх гульнях ён стаў чэмпіёнам у бегу на 800 метраў, выканаўшы нарматыў кандыдата ў майстры спорту. Валерыя ўключылі ў зборную каманду сельскіх лёгкаатлетаў краіны. І хто ведае, магчыма, праз некаторы час у спісе мацнейшых лёгкаатлетаў СССР будзе і яго імя. Стаў жа сельскі хлопец з-пад Віцебска Мікалай Грэбнеў удзельнікам зборнай краіны лёгкаатлетаў. Чаму гэта не пад сілу і іншым беларускім юнакам і дзяўчатам?

Рэспубліканскім гульням папярэднічалі спаборніцтвы ў брыгадах, калгасах і саў-



Тамара Кургановіч на п'едэстале гонару.

